7 верасня 2018 | № 32 (595)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
















# Як пазбавіцца рудыментаў савецкай эпохі?



Сяргей ПУЛЬША

**У шматлікіх бацькоў школьнікаў скончылася нервовасць перад выпраўленнем дзяцей на навучанне. Зараз наступае пэўны час асэнсавання, што ж такога метафізічнага здарылася ў гэтыя дні.**

Я, напрыклад, са здзіўленнем даведаўся, што на некаторых першавераснёўскіх лінейках дзяцей прымалі ў піянеры. Я ўвогуле быў здзіўлены, што нехта і цяпер туды імкнецца. І яшчэ больш здзіўлены, што гэтая арганізацыя дагэтуль дзейнічае ў сярэдняй школе.

Я не супраць самой піянерыі. Ну, падабаецца людзям быць рудыментамі савецкай эпохі, то што ж паробіш? Іх жа не пераканаеш, што «піянер ужо не той», і што дэвіз: «Да барацьбы за справу Камуністычнай партыі Савецкага Саюза будзь гатовы!» зараз можа цешыць вуха хіба што аднаго вядомага міністра. Не існуе ўжо ані той партыі, ані Саюза.

Праўда, зараз піянеры не кажуць пра Кампартыю. Беларускія піянеры сёння кажуць: «Я, уступаючы ў шэрагі Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі, перад сваімі сябрамі ўрачыста абяцаю: любіць сваю Радзіму, быць добрым, сумленным і справядлівым, заўсёды прытрымлівацца Статута і традыцыяў Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі!»

І вось гэта для мяне не вельмі зразумела. Радзіму можна любіць, можна не любіць. Быць добрым, сумленным і справядлівым можна і без усялякіх абяцанняў. Ужо не кажучы пра тое, што «дабрыня» і «справядлівасць» — паняцці, хутчэй, пачуццяў, чым асэнсаванага выбару, і як можна «абяцаць» пачуцці, для мяне загадка. Гэта, канешне ж, ужо з галіны філасофіі, але тым не менш...

Але больш за ўсё напружвае абяцанне прытрымлівацца «традыцый Беларускай піянерскай арганізацыі». Калі глядзець з боку гісторыі, якія гэта могуць быць традыцыі? Павал Карчагін? Марат Казей? Паўлік Марозаў?

Цікава, што ўрачысты прыём дзетак у піянеры ў маім выпадку прайшоў за два дні да сумнага юбілею — ста гадоў пачатку «чырвонага тэрору». Той самай бескампраміснай барацьбы за справу Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у выніку якой мільёны бязвінных людзей былі забітыя, закатаваныя, змораныя голадам, высланыя са сваіх месцаў жыхарства і згноеныя ў лагерах. Ці патлумачаць новым піянерам, нашчадкамі якой сістэмы яны з'яўляюцца, якіх «традыцый» іх просяць прытрымлівацца? Што Аліса Селязнёва — гэта прыгожая казка, а насамрэч піянерыя была часткай ідэалагічнага замбавання моладзі СССР?

Гэта як з Феліксам Эдмундавічам Дзяржынскім. У мае піянерскія часы існавала прыгожая легенда пра тое, як «Жалезны Фелікс» у вольны ад асноўнай працы час ратаваў беспрытульнікаў па розных падваротнях. І толькі ўжо будучы дарослым у мяне ўзнікла пытанне: а адкуль узяліся гэтыя мільёны беспрытульных, якімі апекаваліся Фелікс Эдмундавіч і геній савецкай педагогікі Макаранка? Вайна, голад, холад?




Фота www.tut.by

Альбо «Жалезны Фелікс» адной рукой выдаваў загады пачкамі расстрэльваць «антысавецкіх элементаў», рабаваць іх маёмасць, а другой рукой — ратаваў дзяцей, якія сталі беспрытульнымі і сіротамі па яго ж загадзе?

Увогуле, гэта цікавая тэма для даследчыкаў: куды падзеліся дзеці рэпрэсаваных «ворагаў народа»? Куды іх высылалі, у якія ўстановы? Ці сталі яны піянерамі?

У нас зараз увогуле шмат, а перад 1-м верасня асабліва, кажуць пра «патрыятычнае выхаванне». Можа быць, сучасная піянерыя таксама «заточаная» і на гэтае выхаванне? Але зноў жа ў мяне ўзнікае пытанне, патрыётаў якой краіны будзе выхоўваць моладзевая арганізацыя.

Праз пяць дзён пасля прыняцця дзяцей у піянеры настала яшчэ адна знакавая дата беларускай гісторыі: 8 верасня, самаабвешчаны Дзень беларускай вайсковай славы, дзень, калі 504 гады таму беларускія ваяводы выявілі бліскучае тактычнае і стратэгічнае мысленне, перамогшы значна пераўзыходзячыя сілы праціўніка.

Але што мы прачытаем пра гэту перамогу ў сучасным падручніку гісторыі для 7-га класа? Фактычна, ёй прысвечаны адзін абзац, у якім напісана, што яна належыць да ста самых значных бітваў еўрапейскай гісторыі, што ў ёй удзельнічалі «з абодвух бакоў дзясяткі тысяч чалавек» і што гэта была самая буйная перамога ВКЛ у бітве з Рускай дзяржавай, але яна «не прынесла перамогі ў вайне, якая доўжылася яшчэ восем гадоў». Усё.

Для параўнання: Грунвальдскай бітве ў падручніку для 6-га класа аддадзена 10 старонак — з передгісторыяй і вынікамі. Чым горшая Ворша? Можа быць, праціўнікам — не крыжакамі, а «братнюю Руссю»?

Падаецца, ніякая грамадская арганізацыя не здолее выправіць хібы непатрыятычнага выкладання гісторыі ў школе.

Канешне, я цалкам дапускаю, што сучасная піянерыя — ужо не тое, што было ў часы СССР. Але, каб выключыць незразумелыя пытанні, варта было б адмовіцца ад «традыцыі» піянерыць у школах. А тое незразумела, чаму ў піянеры на лінейках прымаюць, а ў скаўты — не.

І ўвогуле — лепш сумленна выкладаць гісторыю, чым залагоджваць розныя «белыя плямы» ўдзелам дзяцей у не вельмі зразумелых ідэалагічных аб'яднаннях.

# Зміцер Дашкевіч. Рэквіем

**Калі пачалося сёлетняе супрацьстаянне ў Курапатах, дзе-нідзе назвалі яго выпрабаваннем для ўсяго беларускага народа.**



Фота www.tut.by

Шчыра сказаць, мне вельмі хацелася б, каб яно так і было. Але народ, здаецца, яшчэ не ачухаўся з летаргічнага сну. Курапаты, як было кімсьці слушна заўважана, гэта іспыт найперш не грамадства, а эліты. Бо з кага перадусім будзе спытана гісторыяй: з рабацягі МТЗ ці з кіраўніка дэмакратычнай партыі? З кага за дзеянне ці бяздзеянне Бог спытае перадусім: з бабулькі, якая па нядзелях у храм ходзіць, ці з кіраўніка царквы?

Здавалася б, Курапаты — сама тое месца, каб усім згуртавацца, узняць голас — і перамагчы. Бо калі яшчэ сітуацыю аднолькава ацэньвалі і Андрэй Дынько (рэдактар незалежнай «Нашай Нівы»), і Мікалай Чаргінец (кіраўнік прадзяржаўнага пісьменніцкага саюза), якія ва ўнісон заяўляюць, што Курапаты — святое месца для ўсяго беларускага народа, а кабак каля нацыянальнага некропалю — ганьба, — калі і па якой тэме мы яшчэ сустрэнем такое аднадумства правых і левых, нашых і вашых? Ніколі і нідзе не сустрэнем.

Таму ў Курапатах цярпець тое, што ў іншым месцы цярпець не стануць. Курапаты — адзінае месца, дзе я дзень трымаю бел-чырвона-белы сцяг — і не маю за гэтага ніводнага пратакола, а ўвечары не з валацугамі акрэсцінскім смуродам дыхаю, а дзетак дома спаткі ўкладваю.

Падавалася б, любая здаровая грамадская ці палітычная сіла павінна ўсімі рукамі ўчапіцца за гэтую магчымасць, стаць ля Курапатаў, каб сотні, а тое і тысячы беларусаў бачылі з кальцавой у тваіх руках забароненыя, але высока ўзнятыя нацыянальныя сцягі. Замест гэтага мы маем заяву партыі нацыянальных інтарэсаў пра тое, што яна сыходзіць з Курапатаў.

Адзін хрысціянін сказаў мне: «Курапаты–2018 — гэта рэквіем па ўсёй беларускай апазіцыі». Яно і сапраўды, калі падумаць: спісы ў Мін'юст усе падаюць на тысячу, а тое і некалькі тысяч актывістаў, але ў Курапатах стаіць па некалькі чалавек, а некаторыя партыі нікога знайсці не могуць на абарону «святога для ўсяго народа месца». Але я запярэчыў, бо Курапаты — гэта рэквіем па ўсёй беларускай (альтэрнатыўнай) эліце, ці па ўсёй інтэлігенцыі — назавіце гэта як заўгодна.

Перадусім мяне дзівіць пазіцыя тых, хто, па іхным уласным вучэнні, павінен несці сцяг Праўды. Я пра царкву Хрыстову. Паводле Бібліі, кроў нявінна забітых, ад крыві Авеля, штодня крычыць да Бога. У апошняй кнізе Бібліі, Адкрыцці Яна, нявінна забітыя праведнікі галосяць: «Дакуль, Уладару Святы і Праўдзівы, не судзіш і не помсціш за кроў нашу жыхарам зямлі?» (Адкр. 6:10). І ці мала гэтай нявіннай крыві крычыць з мінскіх, віцебскіх і іншых Курапатаў па ўсёй Беларусі? Шмат. Але царква маўчыць.

Праваслаўная царква, якая мае выключныя пазіцыі ў Беларусі, выключна глуханямая. Адзінае, што атрымалася, — журналістам «Свабоды» ўзяць каментар у прэс-сакратара БПЦ Сяргея Лепіна, які асудзіў калякурапацкі кабак. Дзякуй яму за гэта! (Ягоную цытату мы надрукавалі ў новых буклетах, якія раздаюцца ў Курапатах і рэстаранах Зайдэса). Але ж гэта прыватнае выказванне, а не пазіцыя мільённай праваслаўнай царквы. Чаму ж БПЦ глуха і нема да крыку крыві тысяч і тысяч нявінна забітых?

Спатрэбілася два месяцы супрацьстаяння ў Курапатах, каб кіраўнік каталіцкага касцёлу Кандрусевіч асудзіў кабак у Курапатах. Нізкі паклон яму за гэта! Але ці гэта ўсё, што можа зрабіць Касцёл? Калі чытаеш гісторыю пра каталіцкіх герояў веры, такіх, як Ежы Папялушка і Ян Павал ІІ, то з'яўляецца «ерэтычная» думка, што зрабіць можна болей. Уявіце, каб Кандрусевіч заклікаў вернікаў штонядзелю прыходзіць на малітву ў Курапаты, доўга пратрымаўся б бульбашжор ля Курапацкіх ямаў?

Але больш за ўсё мне, як пратэстанту, балела маўчанне пратэстантаў. Я думаў, ладна праваслаўныя — пад ціскам Масквы і пятой галоўнакамандуючага, ладна каталікі — ім новыя касцёлы трэба будаваць, але ж пратэстанты! — самой назвай пакліканы, каб заявіць пратэст беззаконню. Я думаў, разбяруцца праз месяц. Але нямыя. Думаў, разбяруцца праз два. Але глухія. Думаў, разбяруцца праз тры. І вось чытаю: подпіс усіх пратэстанцкіх епіскапаў Беларусі аб'яднаў зварот... — не, не пра Курапаты, — зварот да Лукашэнкі пра абарону ад ЛГБТ-прапаганды. Ведаеце, мне, — змешчанаму ва ўсе ЛГБТэшныя чорныя спісы «гамафобаў», як яны гэта называюць, — мне ўпяршыню стала сорамна, што я пратэстант.

Безумоўна, і тут ёсць важныя выключэнні. Сам я хаджу ў пратэстанцкую царкву, амаль усе чальцы якой некалькі разоў на тыдзень праводзяць у Курапатах і талокі, і малітвы, і мы ўсталёўвалі крыжы. Але ж гэта «голас лямантуючага ў пустыні». А вось кіраўнікі пратэстанцкія і царква дадуць фору ў глухасці і немасці нават праваслаўным пад расійскім патрыярхатам.

У гэтай сітуацыі ўпяршыню шкада і Лукашэнку — не адну брыгаду следчых трэба сабраць, каб пашукаць у ягонай рэпрэсіўнай дзяржаве прапаганду ЛГБТ.

У сённяшняй беларускай рэальнасці прасіць абароны ад садаміі, ды яшчэ і ў Лукашэнкі, гэта як... Гэта як у 1937-м прасіць камуністаў расстрэльныя спісы пісаць без памылак. Гэта як 1943-м прасіць нацыстаў медычнай дапамогі для габрэяў перад забойствам газавымі камерамі. Гэта як злачынец са зброяй залез у вашую хату, а вы замест таго, каб бараніць сябе і дзіцёнка, просіце злодзея: не лайся матам, бо гідка нам гінуць у такой непрыстойнай атмасферы.

Курапаты сёння — гэта прызма, праз якую выяўляецца сутнасць многіх сфер нашага грамадства. Магчыма, па нейкіх з іх павінен прагучаць рэквіем. Нешта павінна памерці, каб потым уваскрэснуць.

**Фэйсбук Змітра Дашкевіча**

# «Наша гісторыя»: ажыятаж і аўтограф-сесія

Алег НОВІКАЎ

**У кнігарні «Акадэмкніга» прайшла сустрэча з аўтарамі новага часопіса «Наша гісторыя». Падобнага ажыятажу вакол друкаванага выдання не было гадоў 25.**

Асабіста я апошні раз бачыў чаргу за друкаванымі СМІ, напэўна, на пачатку 1990-х гадоў. Тады на Якуба Коласа працавала кропка, дзе прадавалі скандальнае выданне «Спид-инфо». Тую кропку стала штурмавалі эратаманы, пакуль прыблізна ў 1995 годзе Мінгарсавет не забараніў продаж згаданага СМІ.

Давялося чакаць амаль 25 гадоў, каб зноў пабачыць падобны ажыятаж. На гэты раз 4 верасня 2018 года немалая чарга стаяла ў краме «Акадэмкніга», каб набыць выданне «Наша гісторыя». Прычым некаторыя трымалі ў руках адразу па 5–7 асобнікаў. «Замовілі сябры з правінцыі», — тлумачылі пакупнікі. Хапала ў чарзе і сведак таго, як хутка знікаюць часопісы ў кіёсках. Пазней арганізатары мерапрыемства прызналіся, што баяліся зрыву імпрэзы праз недахоп асобнікаў часопіса, наклад якога быў каля 6500 экземпляраў.

Пакуль чарга трывала, на другім баку крамы «Акадэмкніга» пачалася анансаваная аўтограф-сесія. Імпрэзу адкрыла прадстаўніца кнігарні, якая падзякавала рэдакцыі за супрацоўніцтва. Пасля слова далі Андрэю Дынько — галоўнаму рэдактару «Нашай гісторыі». Дынько распавёў, адкуль узялася ідэя праекта (поспех падобных выданняў на Захадзе), пазнаёміў з рэдакцыйным калектывам, падзяліўся планамі. Так, ужо 22 верасня выйдзе другі нумар НГ, які будзе прысвечаны Кастусю Каліноўскаму.

Цікава, што паспяховы start-up не пераканаў частку аўдыторыі. Сярод наведвальнікаў імпрэзы былі тыя, хто прагназаваў хуткую трансфармацыю НГ у жоўтае выданне. Іншыя, наадварот, віталі нараджэнне праекта як дамбу на шляху навалы «рускага міра». З іншага боку, і першых, і другіх замірыла ідэя пра тое, што «Наша гісторыя», магчыма, верне ў Беларусь культуру чытання друкаваных тэкстаў.

Аўтограф-сесія вылілася ў сапраўдны хаос, паколькі ўсе журналісты ламануліся наперад да імправізаванай сцэны. Бенефіцыярам водавароту людскіх патокаў аказалася аўтарка змешчанага ў НГ коміксу для дзяцей. Яна выпадкова заняла месца паміж журналістамі і публікай. Сярод іншага, мастачка прыватна прызналася, што ў наступным нумары НГ з'явіцца супергерой Вітаўт.

Увогуле, наяўнасць у гістарычным часопісе дзіцячай секцыі — нешта новае. У тым ліку праз тое, што сучасныя гісторыкі актыўна цікавяцца гендарнымі аспектамі гістарычнага працэсу. Як можа сумясціць у адным выданні дзіцячую старонку і, напрыклад, публікацыі пра сексуальных маньякаў або гомасексуалістаў?

Менавіта пра гэта давялося спытаць рэдактара НГ. Андрэй Дынько паабяцаў, што новае выданне будзе ў трэндзе сучасных гістарычных даследаванняў. Бацькі, па яго словах, знойдуць спосаб, каб іх дзеці не пазнаёміліся з надрукаванымі ў НГ фрыvольнымі тэкстамі і ілюстрацыямі.

# Беларусы старэюць і вымiраюць

**За апошнія 18 гадоў насельніцтва Беларусі скарацілася больш чым на 500 тысяч чалавек. За гэты ж час колькасць пенсіянераў павялічылася на 5 працэнтаў. Такія дадзеныя вынікаюць са звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэту.**

Паводле дадзеных, апублікаваных у Дэмаграфічным штодзённіку Беларусі, яшчэ ў 2000 годзе ў нашай краіне пражывалі крыху болей за 10 мільёнаў чалавек. У гэты ж год колькасць асобаў, старэйшых, а таксама маладзейшых за працаздольны ўзрост, складала прыкладна каля 20 % ад агульнай колькасці насельніцтва.

З 2000 года сітуацыя пачала істотна мяняцца. Гэта быў апошні год у найноўшай гісторыі краіны, калі беларусаў было больш за 10 мільёнаў. Пры гэтым колькасць пенсіянераў істотна вырасла і сёлета складае ў сярэднім па краіне ўжо больш за 25 %. Колькасць жа няпоўнагадовых, наадварот, зменшылася ў 2018 да 17 %.

Паводле падлікаў статыстычнага зборніка, 18 гадоў таму на 1000 працаздольных асобаў прыходзілася 370 пенсіянераў і 356 дзяцей. Сёлета ж колькасць пенсіянераў на 1000 працаздольных складае ўжо 438, дзяцей — 320. Адпаведна, паводле Белстату, дэмаграфічны цяжар на працаздольнае насельніцтва павялічваецца.

Але, на думку эканаміста Міхаіла Залескага, словы пра цяжар і складанасці для працаздольнага насельніцтва не зусім адпавядаюць рэчаіснасці.

— Насамрэч, трэба звяртаць увагу на тое, якім чынам прапаганда карыстаецца гэтымі лічбамі, — кажа Міхал Залескі. — Тут галоўным чынам вядзецца пра павышэнне пенсійнага ўзросту і скарачэнне пенсійнага забеспячэння. Мауляў, на пенсіянераў няма каму рабіць. Але няма патрэбы, каб яны на мяне рабілі, няхай робяць самі на сябе. А мне вярніце тое, што я адкладваў на працягу 50 гадоў.

— Што да лічбаў дэмаграфіі, — працягвае Міхал Залескі, — то, па сутнасці, гэта нармальны працэс. Паколькі не адбываецца эканамічнага змены, то гэты ландшафт проста не ў стане пракарміць вялікую колькасць людзей. Тут я кажу пра нашу эканамічную арганізацыю. Таму мы бядуем, і насельніцтва імкліва скарачаецца.

**Паводле belsat.eu**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не вельмі і хацелася?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падаецца, сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна ўсё ж мелі нейкі эфект. Прынамсі, апошнімі днямі кіраўнік Беларусі толькі і робіць, што «бярэцца за эканоміку».**




Малюнак www.prodonbass.ru

На гэтым тыдні Лукашэнка таксама заявіў: «Я ўжо казаў, што эканоміка — гэта прыярытэт нумар адзін. І калі чагосьці баяцца, то трэба баяцца і дрыжаць за эканоміку, каб яна развівалася, як мае быць». І прамовіў ён гэта на сустрэчы з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем, які да той самай эканомікі мае хіба што апасродкаванае дачыненне.

У нашай краіне і знешні гандаль з'яўляецца абавязкам дыпламатаў. Не ведаю, наколькі гэтая сітуацыя нармальная, канешне. Аднак я ніколі не чуў, каб пасол Кітаю ў Беларусі апекаваўся і прасоўваў бы дзейнасць у нашай краіне, напрыклад, AliExpress. Там і так танныя тавары з Паднябеснай — чаго іх прасоўваць? Яны самі сябе прасунуць. Але ў нас — усё па-свойму.

Ведамства Макея, безумоўна, павінна весці перамовы наконт дамоваў і пратаколаў, якія б спрыялі гандлю беларускімі таварамі ў свеце. Але вось менавіта з гэтым — праблема. І праблема гэтая, дарэчы, зусім не Макея.

Па выніках сустрэчы кіраўнік МЗС паведаміў, што Сінявокая ціхенька, але ўпэўнена рухаецца ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. За апошнія паўтара года Беларусь заключыла 8 пратаколаў з рознымі дзяржавамі наконт уступлення ў СГА. Агулам наша дзяржава падпісала ўжо 18 такіх пратаколаў, засталося правесці перамовы яшчэ з васьмю дзяржавамі. «Але кіраўніком дзяржавы выразна пастаўленая ў чарговы раз задача, выказаная пазіцыя наконт таго, што ўступленне ў СГА для нас не самамэта», — сказаў міністр і дадаў, што рашэнне пра ўступленне Беларусі ў СГА будзе прынятае толькі пасля таго, як беларускія ўлады пераканаюцца, што гэта прынясе «канкрэтныя эканамічныя дывідэнды».

Насамрэч, я думаю, міністр штосьці недагаворвае (які ж з яго дыпламат, калі ён скажа ўсё?). Насамрэч, Беларусь, можа быць, і хацела б правесці гэты працэс хутчэй. Але нормы (хутчэй, маральныя) СГА гэтага не дазваляюць. Насамрэч, складваецца сітуацыя кшталту «рады бы ў рай, але ж грахі долу цягнуць».

Справа ў тым, што СГА працуе ў даволі шчыльнай звязцы з Міжнароднай арганізацыяй працы. А Міжнародная арганізацыя працы даўно пазбавіла Сінявокую гандлёвых прэферэнцый за жорсткае і сістэматычнае парушэнне правоў прафсаюзаў і працоўных. А, гледзячы на нашы выбрыкі з «падаткам на дармаедаў» і «справай РЭП», дык увогуле да Беларусі ставіцца як да хворага на праказу. То бок, нармальныя людзі імкнуцца трымацца ад нас далей.

Улічваючы цесную супрацу СГА і МАП, я не здзіўлюся, што падпісанне пратаколаў з васьмю дзяржавамі (сярод якіх, на хвілінку, і ЗША з іх санкцыямі ды Актам аб дэмакратыі ў Беларусі) зацягнецца на нявызначаны тэрмін.

Безумоўна, адна з галоўных падзеяў тыдня — тое, што Расія вырашыла скараціць у Беларусь пастаўкі нафтапрадуктаў. Кіраўнік падатковага дэпартамента Мінфіна РФ Аляксей Сазанаў заявіў, што пастаўкі нафтапрадуктаў у Беларусь могуць зваліцца больш чым у 10 разоў і з 2019 года складуць 100–300 тысяч тон на год. Гэта нават здзіўляе, бо ў Беларусі — два нафтаперапрацоўчых прадпрыемствы, навошта нам расійскія нафтапрадукты?

Але не ўсё так проста. Справа ў тым, што мы тут прымяняем звыклую схему: атрымліваем танныя нафтапрадукты ад Расіі па ўнутрырасійскіх коштах і пускаем іх на ўласны рынак. А тое, што ствараюць «Нафтан» і Мазырскі НПЗ — даражэйшыя нафтапрадукты, — пускаем на экспарт.

Менавіта таму ў нас танны, у параўнанні з суседзямі, бензін, і менавіта таму павышэнне коштаў на паліва тлумачыцца складанасцямі на нашых НПЗ і «недаатрыманнем імі выручкі».

Расія вырашыла прыкрыць гэтую «нафтавую шчыліну», якой карысталіся беларускія ўлады. Праблема палягае ў тым, што імпарт нафтапрадуктаў быў істотнай крыніцай прыбытку і для бюджэту, і для тых, хто набліжаны да ўлады. Зараз жа «ператаможка», калі нафтапрадукты траплялі на беларускі рынак, а затым ішлі на продаж, пад ударам. То бок, нам давядзецца больш дарагое паліва айчынных НПЗ прадаваць і на ўнутраным рынку, бо таннага расійскага будзе не хапаць. І, адпаведна, знізіцца экспарт «нашых» нафтапрадуктаў — таму што яго таксама будзе не хапаць.

Я не выключаю, што ў нечым такая сітуацыя беларускімі ўладамі пралічвалася. Апошнія падаражанні бензіну на 1–2 капейкі, але хіба не штодзень, і закліканыя паступова давесці кошт бензіну да нармальнага, але так, каб не выклікаць сацыяльнага выбуху. Каб не паўтарыліся акцыі «Стоп бензін!» мінулай пяцігодкі.

У любым выпадку, з расійскім падаткам на здабычу карысных выкапняў «нафтавая лафа» скончыцца даволі хутка, і да гэтага трэба быць гатовым.

І яшчэ цікавыя лічбы раскапалі розныя нячэсныя журналісты. Бліжэй да 1 верасня беларускія тэлеканалы з прыдыханнем паведамлялі аб адкрыцці ў краіне да навучальнага года трох новых школ. Але нехта паглядзеў на сітуацыю з іншага боку і палічыў, колькі школаў былі закрытыя.

Як паведамляе Белстат, на пачатак 2017/2018 навучальнага года ў краіне налічвалася 3067 установаў агульнай сярэдняй адукацыі. Колькасць навучэнцаў у параўнанні з пачаткам 2016/2017 навучальнага года павялічылася на 12 тысяч і склала 995 тысяч чалавек. У 2016/2017 годзе навучання, як паведамляла БЕЛТА са спасылкай на Міністэрства адукацыі, у Беларусі функцыянавалі 3167 школ. Або роўна на 100 школ больш.

Такім чынам, у Беларусі за год закрылася больш за 100 школаў. Што выдатна кажа і пра нашу эканамічную мадэль, і пра дэмаграфічную бяспеку, і пра сацыяльную дзяржаву.

Трэнд на закрыццё ў Беларусі школ працягваецца з пачатку 1990-х гадоў, і, падобна, будзе ісці надалей. Галоўная прычына ліквідацыі навучальных устаноў — скарачэнне школьнікаў. У мінулую суботу ў беларускія школы пайшлі 1,1 мільёна дзяцей. У канцы існавання БССР у рэспубліцы налічвалася каля 1,5 мільёна шкаляроў.

Такім чынам, можна казаць, што ў прынцыпе за час існавання гэтай улады мы засталіся там жа, дзе і былі, — у 1990-х гадах.

А тое, што Аляксандр Рыгоравіч надае столькі ўвагі эканоміцы, — знак, хутчэй, трывожны. Без яго ўвагі ўсё функцыянуе лепш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Белавус

**Крама Symbal.by, якую ўзначальвае Белавус, зрабіла неардынарную рэкламную кампанію.**



4 верасня Symbal.by размясціла ў Мінску білборды з выявай вядучага «Падарожжаў дылетанта» Юрыя Жыгамонта і паэта і пісьменніка, апазіцыйнага палітыка і кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года, а потым палітвязня Уладзіміра Някляева. Жыгамонт і Някляеў рэкламавалі вышыванкі.

Зразумела, улады на такую рэкламу адрэагавалі імгненна — банеры правіселі ўсяго некалькі гадзінаў, а потым зніклі. «Пазваніў у рэкламную кампанію, з якой у нас дамова, кажуць, што звярнуліся з высокіх органаў і загадалі зняць», — расказаў Белавус.

Планавалася, што ў бліжэйшыя дні з'явяцца білборды з фотаздымкамі Лявона Вольскага і Меліціны Станюты. Але і яны на вуліцах не з'явіліся. «Сітуацыя, канешне, непрыемная, будзем чакаць падрабязнасцяў», — зазначыў Павел Белавус.

Насамрэч, у выніку скандалу пра краму Symbal.by даведалася вельмі багата народу. А ці не гэта і ёсць мэта любой рэкламнай кампаніі?

## Наталля Радзіна

**Сайту Charter97 11 верасня спаўняецца 20 гадоў. Але рэдактарка сайта кажа, што «зараз не час для юбілейных урачыстасцяў».**



«За 20 гадоў працы мы прайшлі праз многае: крымінальныя справы,ператрусы, арышты журналістаў, катаванні ў турме КДБ, вымушаную эміграцыю. У 2010 годзе быў забіты заснавальнік сайта Алег Бябенін. З 24 студзеня 2018 года ўлады спрабуюць блакаваць нас у Беларусі, блакуюць сайт і ў рэгіёнах Расіі. У апошні час ідуць пагрозы журналістам сайта», — напісала ў рэдакцыйнай калонцы Наталля Радзіна.

Па яе словах, зараз сайт стаіць перад новым выклікам. «Блакаванне Charter97 у Беларусі дзіўным чынам супала з тым, што нам сталі адмаўляць у дапамозе міжнародныя фонды, якія займаюцца падтрымкай СМІ ў Беларусі. Такім жа дзіўным чынам у гэты час значна ўзрасла фінансавая дапамога Еўрасаюза дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі. Толькі ў апошні час у рамках тэхнічнай дапамогі ЕС дыктатура атрымала больш за сотню мільёнаў еўра», — адзначыла яна.

Напрыклад, сайт Charter'97 за ўсе 20 гадоў сваёй працы ні разу (!) не атрымаў дапамогі ад Еўракамісіі, піша рэдактарка.

Таму напярэдадні 20-годдзя сайт Charter'97 звярнуўся па падтрымку сваіх чытачоў. «Вядома, мы будзем працягваць стукацца ва ўсе дзверы, прасіць дапамогі, тлумачыць, наколькі важная для Беларусі свабодная інфармацыя. Але ў першую чаргу незалежныя медыя патрэбны самім беларусам», — лічыць Радзіна.

Грошы на далейшае існаванне самага чытанага апазіцыйнага інтэрнэт-рэсурсу ў Беларусі можна пералічыць праз PAYPAL.

## Вераніка Дамброўская



**Кікбаксёрка Вераніка Дамброўская напісала вельмі пранізлівы ліст міністру спорту Рэспублікі Беларусі Сяргею Кавальчуку.**

Па яе словах, на Кубку Свету яна хацела годна завяршыць кар'еру. Але ў Федэрацыі кікбоксінгу ёй сказалі, што грошай на тое, каб яе адправіць на спаборніцтвы, няма. Спартсменка сама сабрала неабходную суму, але Федэрацыя адмовілася яе рэгістраваць на Кубак Свету! Дамброўская зарэгістравалася там праз трэнера іншай краіны.

У выніку спартсменка выйграла там два залатых медалі. Але па вяртанні з турніру яе ніхто нават не павіншаваў з перамогай! «Падпісаўшы маю заяву на звальненне, кіраўніцтва Федэрацыі кікбоксінгу зрабіла выгляд, што я не існавала ўсе гэтыя гады, не выйгравала медалі, не ўслаўляла краіну», — напісала Дамброўская і зазначыла, што «ніколі не думала, што так праводзяць спартсменаў, якія столькі зрабілі для сваёй краіны». «Калі чыноўнікі ад спорту не ўмеюць шанаваць спартсменаў, значыць, яны памылкова займаюць свае месцы», — робіць выснову Дамброўская.

Вераніка Дамброўская — 13-разовая чэмпіёнка свету, 7-разовая чэмпіёнка Еўропы, шматразовая пераможца Кубка свету 2001–2018 гадоў, шматразовая чэмпіёнка Беларусі, заслужаны майстар спорту РБ, спартсменка-інструктар Міністэрства спорту. Яна — адзіная ў свеце спартсменка, якая на ўсіх чэмпіянатах свету і Еўропы з 2000 па 2015 гады збірала залатыя медалі.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У чым сіла, браце, беларускай дзяржавы?

**Уладную «вертыкаль» не варта блытаць з дзяржавай: ніякай задачы, акрамя ўтрымання ўлады, з яе дапамогай вырашыць немагчыма.**

Жнівень для адзінага палітыка (АП) завяршыўся разглядам чарговых кадравых пытанняў. Ён прызначыў і даў згоду на прызначэнне амаль двух дзясяткаў чыноўнікаў: ад міністра фінансаў да дырэктара ААТ «Брэсцкі электралямпавы завод». Адным словам, «вертыкаль». Яе яшчэ, згодна з традыцыяй, часта называюць «кіраўнічая вертыкаль», аднак нядаўні візіт АП у Аршанскі раён паказаў, наколькі беларускі варыянт «вертыкалі» здольны кіраваць.

У тым, што любая ўлада, арганізаваная вертыкальным чынам, нейкіх іншых інтарэсаў, акрамя сваіх уласных, абслугоўваць не ў стане, я і раней ніколі не сумняваўся. І справа тут не ўва мне. Справа ў сусветнай практыцы, якая ў дадзеным пытанні з тэорыяй не разыходзіцца. Але паколькі беларусы з'яўляюцца «рускімі, толькі са знакам якасці», дык і прадстаўнікі беларускай вертыкальнай «дыяспары» без свайго знака абыходзіцца не могуць. Вось толькі ён, хутчэй, з'яўляецца знакам бяды.

Ён не трымаецца ў таямніцы. Пра яго шмат і з веданнем справы гаварыў 31 жніўня АП. Гэта п'янства з нагоды і без нагоды — «і больш за ўсё без нагоды». П'янства «да страты пульсу, і гэта праз дзень або кожны дзень...». Аднак рашэнне прынятае: прафесіяналаў падобнага ўзроўню «ў кіраўніцтве не будзе». Раней былі, і ў значнай колькасці, а цяпер не будзе.

АП сказаў — АП зрабіў. Дакладней, паабяцаў зрабіць. У краіне, у якой дзяржаўная ідэалогія выбудаваная вакол «чаркі і скваркі», працей пераламаць «вертыкаль», чым усталяваную традыцыю.

Пэўную надзею, канешне, дае працэс натуральнай змены пакаленняў. Але наколькі новае пакаленне кіраўнікоў зможа супрацьстаяць «зялёнаму змею» — пытанне адкрытае. Веданне замежных моў — так, уменне размаўляць у свеце на адной і той жа мове з фінансістамі — так. Аднак з гэтага не вынікае, што памаладзелае на 20–25 гадоў пакаленне кіраўнікоў не збочыць на пракладзеную папярэднікамі сцяжыну.

Як тут ні прыгадаць стары анекдот пра адрозненне дасавецкіх марксістаў ад савецкіх. Калі збіраліся дасавецкія, яны на стол клалі «Капітал», а пад стол ставілі бутэльку. Калі ў дзверы пачынала грукацца паліцыя — бутэлька аказваліся на стале, а «Капітал» пад сталом. Савецкая ж марксісты дзейнічалі дакладна наадварот.

«Капітал» сёння не ў модзе. Яго чытаннем на працоўным месцы даверу ў вачах кіраўніцтва не заслужыць, але, на шчасце, вытворчасць пасведчанняў кіраўнікоў пастаўленая ў Беларусі на паток. Нездарма АП працуе як стаханавец — рэгулярна папаўняе заканадаўчую базу краіны лёсавызначальнымі пастановамі і дэкрэтамі. Таму праблемы з тым, што трэба расклаці на стале, каб паспрыяць кар'еры, у новага пакалення кіраўнікоў не з'явіцца, а праблемы з тым, што трымаць пад сталом, наогул не ўзнікала.

«У нас, — як любіў паўтараць лірычны герой Міхаіла Жванецкага, — з сабой было». Ад сябе дадам: было, ёсць і будзе.

### Хто будаваў маякі?

«Часу на раскачку няма. <...> Ніякай раскачкі — толькі наперад. Я найперш чакаю ад вас жорсткай дысцыпліны на падведамасных прадпрыемствах і вашых міністэрствах. З гэтага трэба пачынаць», — даваў наказ чарговым прызначэнцам АП.

Наперад за кошт жорсткай дысцыпліны. Цікавая кіраўнічая канцэпцыя, пагадзіцеся. Ва ўстаноўленні жорсткай дысцыпліны як у галоўным фактары развіцця былі зацікаўленыя і егіпецкія фараоны, і рымскія імператары. Іншых фактараў яны не ведалі, і па-свойму мелі рацыю, бо цяглічныя высілкі людзей і жывёл заўсёды было выгадна стымуляваць пугай.

Але прамысловая рэвалюцыя пачалася ў Еўропе не ў выніку ўдасканалення пугі, а ў выніку вынаходніцтва паравой машыны і яе масавага ўкаранення на вытворчасці і транспарце. І ўсяму гэтаму свет абавязаны прыватнай ініцыятыве і прыватным грошам. Што да ўкладу кіраўнічай «вертыкалі», то ні на стадыі вынаходніцтва, ні на стадыі ўкаранення зафіксаваць яго не ўдалося.

«Што тычыцца ролі дзяржавы ў эканоміцы, суд пайшоў на нараду і пакуль не вярнуўся», — такое аўтарытэтнае меркаванне нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта. Яго можна смела распаўсюдзіць не толькі на сферу вынаходніцтва і інавацый, але і на стварэнне інфраструктуры. Сцвярджэнне спрэчнае, таму падмацуем яго гістарычным прыкладам.

На працягу 200 гадоў эканамісты былі ўпэўненыя, што маякі ў Англіі будаваліся дзяржавай і за дзяржаўныя грошы. Адпаведныя прыклады мы можам знайсці, у тым ліку, у працах класікаў эканамічнай навукі (Рыкарда, Міль, Кейнс).

Для таго, каб зразумець, чым і як завяршылася ўсеагульная памылка, я прывяду фрагмент з лекцыі эканаміста Аляксандра Аўзана: «І тут знайшоўся зануда. Я маю на ўвазе чалавека, які таксама атрымаў Нобелеўскую прэмію па эканоміцы, — гэта Рональд Коўз. Ён вырашыў праверыць, хто будуе маякі. Ён пайшоў у архіў Брытанскага адміралцейства і стаў высвятляць. І прыйшоў да парадаксальнай высновы: маякі будавалі гільдыі капітанаў судоў, асацыяцыі суднаўладальнікаў, мясцовыя супольнасці, але не дзяржава. Так, яны перадаваліся ў кіраванне адміралцейству, але дзяржава гэтага не рабіла».





### Усё пад кантролем

Сучасныя паспяховыя дзяржавы праблемамі дысцыпліны на прадпрыемствах не займаюцца. Аднак было б сур'ёзнай памылкай лічыць, што яны цалкам самаўхіліліся ад падтрымання парадку. Але падтрыманне парадку на дзяржаўным узроўні не мае ніякага дачынення да барацьбы з п'янствам міністраў. Парадак — гэта закон, прычым закон універсальны.

Вернемся ў калыску прамысловай рэвалюцыі — Вялікабрытанію. У пачатку XIX стагоддзя ў краіне было прынята больш за 200 законаў, якія прадугледжвалі смяротнае пакаранне за эканамічныя злачынствы. На шыбеніцу адпраўлялі з 12 гадоў за шкоду, якая перавышала 6 пенсаў (кошт булачкі).

Жорстка? Звышжорстка. Аднак на стадыі пераходу ад аграрнага грамадства да грамадства індустрыяльнага такая жорсткасць сябе апраўдала. Яе вынікам стаў новы сацыякультурны тып чалавека — «чалавек законапаслухмяны». Яго не варта блытаць з «чалавекам рабалепным», які трымае паставу пакоры ў прысутнасці начальства. Апошні тып у нас шырока распаўсюджаны. Айчыннае тэлебачанне рэгулярна яго дэманструе.

Як паказвае практыка, «чалавек законапаслухмяны» адначасова з'яўляецца і «чалавекам дысцыплінаваным». Пры гэтым

> **Прамысловая рэвалюцыя пачалася ў Еўропе не ў выніку ўдасканалення пугі, а ў выніку вынаходніцтва паравой машыны і яе масавага ўкаранення на вытворчасці і транспарце**

крыніца дысцыпліны знаходзіцца ў яго ўнутры, а не звонку. Ён не перавышае хуткасць на дарогах не з-за асцярогі атрымаць «ліст шчасця», а таму што так патрабуе закон, так прынята, так больш шанцаў не патрапіць у аварыю.

Для людзей, пазбаўленых унутранай крыніцы дысцыпліны і парадку, пастаянна трэба крыніца вонкавая. Ролю такой крыніцы і выконвае ўладная «вертыкаль» з АП на чале. Яму ў чарговы раз і далося слова: «Патрэбны вынік, патрэбна дысцыпліна. Гэта фактары нашай незалежнасці. Таму што ад гэтага залежыць развіццё эканомікі. Самае страшнае, за што мы павінны «баяцца», — гэта эканоміка. Іншых праблем у нашым грамадстве няма. Усё астатняе мы трымаем жорстка на кантролі. Эканоміка перш за ўсё!»

«Іншых няма праблем». Усё пад кантролем. У тым ліку — скарачэнне колькасці арганізацый, якія выконваюць навуковыя даследаванні і распрацоўкі (з 530 у 2012 годзе да 431 у 2016-м — мінус 18,7%), і зніжэнне колькасці іх персаналу (з 30 437 да 25 942 чалавек — мінус 14,8%).

Спадзяюся, ад шматлікіх кантралёраў са шматлікіх кантралюючых структур не схавалася і істотнае скарачэнне фінансавання навукі з дзяржаўнага бюджэту — з 0,39% да ВУП у 2000 годзе да 0,27% у 2016-м. Гэты паказчык на парадак ніжэй, чым у ЗША і Кітаі (гаворка, зразумела, ідзе пра адносныя лічбы).

Паказчыкам, што сігналізуе аб давядзенні кантролю ў навуцы да максімальна магчымага ўзроўню, будуць служыць навукоўцы, якія ходзяць строем. Пакуль такога не назіраецца, што і апраўдвае занепакоенасць АП з нагоды магчымай страты незалежнасці.

Навукоўцы — людзі рацыянальныя і адначасова свядомыя, а што да месца на пляцы для правядзення заняткаў па страявой падрыхтоўцы, дык гэта сфера адказнасці роднай дзяржавы. Турбавацца з гэтай нагоды не варта — не ў Вялікабрытаніі ж жывем! Таму паўтарэнне гісторыі з маякамі Коуза ў нас выключанае.

Калі меркаваць па зніжэнні колькасці нацыянальных патэнтаў на вынаходніцтвы (з 1015 у 2006 годзе да 892 у 2016-м), заняткі па страявой падрыхтоўцы беларускія навукоўцы ўжо актыўна распачалі.

***

У 1994 годзе будучы АП падняў «уладу з бруду» і на абломках савецкай уладнай «вертыкалі» выбудаваў «вертыкаль» постсавецкую, якую абвясціў дзяржавай. Аднак падобная вертыкальная канструкцыя калі і мае дачыненне да сучаснай дзяржавы, дык вельмі і вельмі аддаленае.

Усё, на што здольная ўладная «вертыкаль», — гэта ўтрымліваць уладу. Пакуль атрымліваецца, але цяжкасці з кожным днём нарастаюць. Таму тэма «захавання стабільнасці» ўвесь час і ўсплывае ў выступах АП.

# Беларусь: хроніка русіфікацыі

Андрэй РАСІНСКІ

**Як сведчыць ведамасная статыстыка за 2017 год, працэс русіфікацыі не спыняецца. Пасля 1994 года доля беларускамоўных студэнтаў скарацілася ў 103 разы, а дашкольнікаў у гарадскіх дзіцячых садках — у 30 разоў.**

Звесткі пра беларускамоўную адукацыю — ціхія і незаўважныя, як і яна сама. Каб штосьці хаця б пачуць пра яе, трэба правесці сапраўдныя вышукі. Пачнём.

У апошнім статыстычным даведніку Беларусі за 2017 год можна знайсці інфармацыю пра колькасць студэнтаў са Шры-Ланкі і Нігерыі, даведацца, колькі чалавек закончыла курсы садова-паркавай гаспадаркі, і дазнацца, нарэшце, ці маюць вышэйшую адукацыю настаўнікі дапрызыўнай падрыхтоўкі.

А вось звестак пра адукацыю на беларускай мове ў галоўным статыстычным даведніку краіны цяпер няма. Зрэшты, сам даведнік — на рускай мове. Трохі раней штогоднік выходзіў на рускай і англійскай мове, а на пачатку 1990-х у ім друкаваліся звесткі пра беларускамоўныя садкі і школы. З сярэдзіны 1990-х гэтая статыстыка знікла, зрэшты, як і прыкметы, што мы маем справу з выданнем незалежнай дзяржавы, а не нейкага расійскага рэгіёна.

Тым не менш, такія-сякія лічбы можна адшукаць у малатыражных ведамасных выданнях. Назаву іх, пакуль яны канчаткова не зніклі з далягляду:

2001–2012 — Вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь па стану на пачатак (за гэтыя гады) навучальнага года (статыстычны даведнік (СД)), Мінск: ГІАЦ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

2013–2017 — Установы вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь па стану на пачатак (за гэтыя гады) навучальнага года (СД), Мінск: ГІАЦ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

1994–2007 — Дашкольныя ўстановы Рэспублікі Беларусь па стану на 1 студзеня (за гэтыя гады) (СД),

**Сітуацыя можа быць яшчэ горшая, чым выяўленая на графіках. У даведніках падавалі яшчэ мяшаныя групы — я далучыў дзетак з гэтых груп да рускамоўных ці беларускамоўных у залежнасці ад долі, але і гэтыя мяшаныя групы, як выглядае, былі формай русіфікацыі**

Мінск: Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Вылічальна-аналітычны цэнтр.

2007–2017 — Установы дашкольнай адукацыі і педагагічныя кадры ўстаноў дашкольнай адукацыі Рэспублікі Беларусь па стану на пачатак (за гэтыя гады) (СД), Мінск: Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Галоўны інфармацыйна-аналітычны цэнтр МА РБ.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь па стану на пачатак навучальнага года (СД), Мінск: ГІАЦ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Дадам яшчэ: «Образование в Республике Беларусь. Минск: Министерство статистики и анализа Республики Беларусь», за 1995–2000 гады.

Дык які працэнт школьнікаў вучыцца на беларускай мове, а які на рускай, колькі студэнтаў атрымлівае адукацыю па-беларуску? Нарэшце, якія моўныя змены адбываюцца ў вёсцы і ў горадзе?

Змены за 1994–2017 год відавочныя — і ўсе яны не на карысць беларускай мовы.

Колькасць беларускамоўных студэнтаў у дзяржаўных установах вышэйшай адукацыі скарацілася з амаль 20 тысяч у 1997 годзе да 291 чалавека ў 2017 годзе. Гэта нават менш, чым было ў 1990 годзе (811 чалавек). У працэнтным плане падзенне яшчэ большае — з 10,5% да 0,1%, так што доля беларускамоўных студэнтаў паменшылася ў 103 разы (малюнак 1).

Паказальна, што ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце, у якім рыхтуюць настаўнікаў, толькі 58 чалавек (альбо ўсяго 0,5%) навучаецца на беларускай мове. Усе — на завочным аддзяленні. Гэта дадзеныя за 2017 год, цяпер, верагодна, будзе яшчэ менш. У прыватных навучальных установах сітуацыя лепшая: у Міжнародным гуманітарным эканамічным інстытуце на беларускай мове завочна вучыцца 75 чалавек, ці 10,6%.

Праўда, у даведніках пазначаецца, што частка студэнтаў вучыцца адначасова на рускай і беларускай мовах (у 2017 годзе такіх было 39,1%), але падобныя звесткі могуць быць пустой фармальнасцю: беларуская мова ва ўніверсітэтах можа быць рады ў гады. Дарэчы, ва ўніверсітэтах яе ўжо пачынае выцясняць мова англійская.

Абвалілася колькасць беларускамоўных дашкольнікаў у гарадах. У 1994 годзе іх было 276 тысяч, у 2017 — 8,6 тысячы. Падзенне — у 32 разы. Доля гарадскіх дашкольнікаў зменшылася на падобную велічыню — у 29,4 разу, ці з 68,9% — да 2,3% (малюнак 2). Заканамерна, што падае доля ўсіх беларускамоўных дашкольнікаў (малюнак 3), што ў горадзе, што ў вёсцы (малюнак 4).

Увогуле, знікненне беларускамоўнай адукацыі ў вёсках — гэта адметнасць цяперашніх часоў. Такога раней не было — ані за царскім часам (якая тады адукацыя?), ані за савецкім (русіфікацыя адбывалася ў гарадах, вёску не чапалі). Але ў часы першага беларускага прэзідэнта доля беларускамоўных дашкольнікаў у вёсках імкліва зменшылася амаль у два разы — з 96,6% да 52,7%, і не выглядае, каб гэты працэс сцішыўся.

Сітуацыя можа быць яшчэ горшая, чым выяўленая на графіках. У даведніках падавалі яшчэ мяшаныя групы — я далучыў дзетак з гэтых груп да рускамоўных ці беларускамоўных у залежнасці ад долі, але і гэтыя мяшаныя групы, як выглядае, былі формай русіфікацыі.

Чым хутчэй падае доля беларускамоўных дашкольнікаў, тым болей звужаецца беларускамоўны асяродак. Змяншэнне гэтага асяродку, у сваю чаргу, паскарае закрыццё беларускамоўных садкоў.

Таксама падае колькасць беларускамоўных школьнікаў (малюнак 5), як у вёсках (малюнак 6), так і ў гарадах (малюнак 7). Руская мова дамінуе абсалютна, у горадзе яе ўвогуле 98,3% (дадзеныя за 2017 год). Апошні беларускамоўны ліцэй знік у 2015 годзе: руская мова цяпер — 100% (падпольны Коласаўскі ліцэй у дзяржаўную статыстыку не трапляе).

Дарэчы, у 1925 годзе руская мова была ўсяго… на трэцім месцы. Рэй у мястэчках і гарадах, не гаворачы ўжо пра вёску, вяла беларуская мова. На ёй займалася 61,6% гарадскіх школьнікаў, а навучэнцаў на ідыш было амаль у два разы болей, чым рускамоўных дзяцей. У 1938 годзе яшчэ 93,3% усіх школьнікаў вучылася на беларускай мове, а на рускай мове — толькі 6,6%.

У моўных зменах за 1994–2017 гады няма ніякіх прыкмет «мяккай беларусізацыі». Доля беларускамоўных школьнікаў, студэнтаў, дашкольнікаў стала зніжаецца, і гэты працэс у 2017 годзе не спыніўся.

Беларусь — гэта адзіная краіна СНД, дзе нацыянальная мова здала свае пазіцыі і амаль знікла з адукацыйнай прасторы. Нават у Казахстане і Кыргызстане, дзе сітуацыя была вельмі няпростая, нацыянальныя мовы ўзмацніліся. Стан беларускай мовы ў Беларусі нават горшы за стан мясцовых моваў у асобных расійскіх рэгіёнах.

Размеркаванне беларускіх школьнікаў паводле мовы навучання, %

Беларуская мова

Руская мова

Малюнак 5.




Малюнак 1.




Малюнак 3.




Малюнак 6.




Малюнак 2.




Малюнак 4.




Малюнак 7.

# Практычныя парады:

Мікалай ДЗЯДОК

**Гэтыя парады аўтар калісьці напісаў для сваіх таварышаў зыходзячы з уласнага досведу. Але, улічваючы сённяшнія рэаліі — «справу БелТА», «справу прафсаюзаў», ціск на незалежныя медыя, ды іншыя палітычныя працэсы, — мы вырашылі, што ён будзе цікавы і шырокаму колу чытачоў.**



**Абсалютная большасць спраў трымаецца на паказаннях самога абвінавачанага альбо сведкаў, якія атрыманыя ў першыя дні (а тое і гадзіны) пасля затрымання. Спецыфіка ж судовага пасяджэння такая, што вашы адмовы ад ранейшых паказанняў мала хто будзе слухаць**

Допыты, якія праводзіць следчы, у дасудовым працэсе звычайна граюць фармальную ролю. Асноўную ролю адыгрываюць «размовы», які праводзіць аператыўны супрацоўнік. Па звычцы і для прастасці ўспрыняцця мы будзем называць гэтыя размовы «допытамі».

Каб зразумець псіхалогію допыту, трэба разумець псіхалогію аператыўнага супрацоўніка (опера). Гэта асоба, мэта якой — сабраць інфармацыю. Чым больш цяжкае рэальнае альбо ўяўнае злачынства, тым больш яно цікавіць опера. Інфармацыя, сабраная операм, паступае следчаму, ад яго — у крымінальную справу. Менавіта тое, што сабрана ў крымінальнай справе, і вызначыць у будучым ваш прысуд. Спецыфіка судовага пасяджэння такая, што вашы адмовы ад ранейшых паказанняў мала хто будзе слухаць (суд над Фядынічам і Комлікам гэта яшчэ раз пацвердзіў). Абсалютная большасць спраў трымаецца на паказаннях самога абвінавачанага альбо сведкаў, якія атрыманыя ў першыя дні пасля затрымання.

Опер харчуецца і жыве інфармацыяй. Гэта — яго стыхія. Любы мікраскапічны факт, нязначная для вас дэталь у расказе могуць стаць для яго найважнейшай зачэпкай альбо ўвогуле вызначальным момантам. Іх вучаць гэтаму.

Адразу разумейце і сыходзьце з таго, што опер — разумны і хітры чалавек. Ён можа быць не так добра адукаваны, можа не ведаць, чым Крапоткін адрозніваецца ад Маркса, а веганы ад фрыганаў, але ў большасці выпадкаў ведае чалавечую псіхалогію нашмат лепш, чым вы.

### Мэты: вашы і аператыўніка

Вас прывялі ў пакой. Перад вамі сядзіць аператыўнік, адзін ці некалькі. У вас ёсць мэты, і ў яго ёсць мэты. І яны не супадаюць. Хто з вас дасягне мэты, у аграмаднай ступені залежыць у дадзены момант ад вас. Ад шэрагу іншых фактараў таксама: ад таго, як сябе паводзяць вашы сябры, ад таго, ці знайшлі якія рэчыўныя доказы, ад добрасумленнасці саміх аператыўнікаў. Аднак на львіную долю — ад вас.

Мэты опера: даведацца як мага больш інфармацыі пра вас ці вашу арганізацыю, групоўку і пра канкрэтныя эпізоды дзейнасці.

Ваша мэта — гэтай інфармацыі яму не даць. Улічваючы спецыфіку крымінальных спраў супраць «экстрэмістаў», гэтая мэта роўная мэце «вывесці з-пад небяспекі таварышаў». Заўважце, ваша мэта — не «выратаваць сябе», не «пазбегнуць турмы», не «знізіць тэрмін», не «захаваць фізічны і псіхалагічны камфорт». Не. Ваша мэта адна: не даць аператыўнікам інфармацыю, якая будзе небяспечнай для вашых сяброў, калег, таварышаў.

Менавіта адштурхоўваючыся ад гэтай мэты вы мусіце будаваць сваю лінію паводзінаў на працягу ўсяго следства. Кожнае ваша слова, кожны жэст, кожны ўздых — усё мусіць быць падпарадкавана гэтай мэце.

### Пачатак допыту

Цалкам лагічна з вашай мэты выцякае галоўнае правіла таго, каго дапытваюць: «язык мой — вораг мой», альбо «слова — срэбра, маўчанне — золата».

Пры любой першай сустрэчы чалавек вас ацэньвае. З першых хвілінаў размовы гэта робіць і опер. Але калі большасць людзей робіць гэта несвядома, опер робіць гэта ў вышэйшай ступені свядома. Ён глядзіць на тое, як вы заходзіце, як трымаецеся, як глядзіце на яго і размаўляеце.

Часцяком вы ўваходзіце ў пакой допыту не са свайго ўтульнага крэсла за кампутарам, а з турэмнай камеры — абсалютна чужога і нязвыклага для вас месца. Адпаведна, на вас ляжыць адбітак стрэсу. Вам няўтульна, нязвычна, страшна. Вас пужае невядомасць. Усё гэта — таксама частка аператыўнай гульні, якая адзін фактар, які мусіць дапамагчы оперу дасягнуць сваёй мэты.

Опер амаль заўсёды пачынае размову на добрай ноце. Вельмі рэдка з пагроз і тым больш з гвалту — такое звычайна больш уласціва для тых, хто працуе з крымінальнікамі.

Тлумачэнне «добраму старту» простае. Каб вас разгаварыць, оперу важна вас расслабіць, знізіць псіхалагічныя бар'еры. У камеры ты напружаны, а калі ідзеш на допыт — чакаеш непрыемнасцяў і напружваешся яшчэ больш. Ты гатовы да канфрантацыі. І ў той жа час табе, як любому чалавеку, хочацца спакою, камфорту, разумення, спачування. Опер гатовы даць табе ўсё гэта дзеля дасягнення сваёй мэты — атрымаць інфармацыю.

Для зняцця псіхалагічных бар'ераў ідзе ў ход наступнае: добразычлівы, прыемны тон; гарбата, печыва; прапанова паліць (асабліва добра дзейнічае, калі ў камеры няма цыгарэт); праява спачування; выказванні падтрымкі вашым поглядам; жарты, гумар; прапанова дапамогі.

Усе мы добра выхаваныя. У нас на ўзроўні звычкі ўсталявана: калі з намі ветліва, мы мусім ветліва стасавацца ў адказ.

Аднак заўсёды трэба памятаць пра мэту, да якой мы ідзём, пачынаючы з моманту затрымання. Сыходзячы з гэтай мэты адзіна правільным будзе не прымаць знакі ўвагі і ні ў якім разе не здымаць бар'ераў. Пастаноўка опера «па-чалавечы» на адну дошку з сабой — просты шлях да здрады. Катэгарычна не рэкамендую піць гарбату, браць цыгарэты, усміхацца ў адказ на жарты. На кожную яго ўсмешку і добразычлівае слова варта даваць сабе ў галаве напамін: «У яго ў руках мой лёс. Яго мэта — пасадзіць мяне на як мага больш доўгі тэрмін. Калі яму дадуць загад, ён будзе мяне біць, катаваць і кідаць у прэс-хату». Ні ў якім разе нельга падманвацца добразычлівай шырмай. Гэта першая памылка многіх людзей, асабліва інтэлігентных, выхаваных і добрых.

Не забывайцеся: адносіны між вамі — гэта нераўнапраўныя адносіны. Вы ў яго ў палоне. Вы ад яго залежыце. Таму ніякай шчырасці, сапраўднай дабрыні між вамі быць не можа па вызначэнні. Усё — фальш.

На гэтай стадыі, як і на многіх іншых, неабходна як мага меней размаўляць. Нават вы калі вы не ўяўляеце, як сказанае вамі слова можа быць скарыстана супраць вас і вашых таварышаў, паверце, опер гэта выдатна ўяўляе.

### Уласна допыт

Пасля зняцця бар'ераў пачнуць задаваць пытанні. Пераход ад задушэўнай размовы да пытанняў будзе максімальна лагодным, каб вы не адчулі, што вас выкарыстоўваюць.

Пытанні залежаць ад спецыфікі справы. Аператыўнікі не будуць пытацца: «Што вы рабілі такога-та чысла ў такі-та час» — гэта справа следчага. Яны будуць цікавіцца, хто вашы сябры, чым яны займаюцца, як даўно яны ў руху ці арганізацыі, хто ў вас лідар… Асноўнае, што трэба зрабіць оперу, — разблытаць клубок сацыяльных сувязяў і скласці псіхалагічны партрэт кожнага з падазроных.

Часта раяць: «Пра сябе кажы, што хочаш, але толькі не пра іншых». Тут крыецца падвох. Нават тое, што вы сказалі оперу пра сябе, ускосна дапамагае яму намаляваць агульную карціну і грае, тым самым, супраць іншых. Напрыклад, вы пачынаеце нечакана браць на сябе ўсё, пры тым што вы пакуль — адзіны затрыманы. Опер робіць вынік: «Кагосьці выгараджвае. Значыць, ёсць і астатнія. Гэта група», — і працягвае пошукі.

З гэтага вынік: на ўсе пытанні трэба адказваць адмоўна і аднаскладна: не ведаю, не бачыў, не быў, не стасаваўся, не сустракаў, паняцця не маю. На нязручныя пытанні лепш увогуле маўчаць. Не думайце, што гэта проста. Чалавек такі, што яму хочацца працягваць размову, адказваць. Таму вам прыйдзецца напружыцца і пабудаваць між сабой і операм дастаткова моцны псіхалагічны шчыт.

У адказ на пытанні не варта хаміць і абражаць. Па-першае, могуць і збіць, а гэта вам абсалютна не трэба (здароўе яшчэ прыдасца), па-другое, не варта прыпадабняцца мярзотнікам.

Абавязковы прыём опера: шматразовы паўтор адных і тых жа пытанняў. Вам будзе хацецца адказаць на іх, проста каб ад вас адчапіліся.

Важна: калі оперу не атрымалася зняць псіхалагічны бар'ер з першага разу, ён пяройдзе да іншых прыёмаў (аб якіх ніжэй), потым зробіць кола і вернецца да зняцця бар'ераў (нязмушанай размовы), паспрабуе ў ходзе гэтай размовы незаўважна для вас задаць пытанне, якое яго цікавіць. Напрыклад: «Так, у нас вось ёсць такі калега, ён часам такое выдае!» (далей ідзе аповед пра смешнага калегу), вось і я ўжо прыходжу на працу і кожны раз чакаю, што ён чудане… Ага… (мілая ўсмешка, добразычлівы тон). Дык ты, кажаш, з Дзімам перыядычна бачышся, так?»

### Ціск

Як правіла, калі оперу не атрымалася ўзяць вас «па-добраму», пачынаецца праца «па-злому». Выпадкі, калі палітычных ламаюць фізічна, на сёння рэдкія. Прычыны гэтага наступныя:

- Большасць людзей выдатна расколваецца адным толькі псіхалагічным ціскам, без ужывання гвалту.
- Катаванні выклікаюць вялікую грамадскую агалоску і б'юць па іміджы ўлады (перш за ўсе на Захадзе).
- Самае галоўнае: на сёння няма рухаў і асобаў, фатальна небяспечных для ўлады, супраць якіх такія метады варта было б ужываць з улікам папярэдніх двух фактараў. Як толькі такія рухі альбо асобныя індывідуумы з'явяцца — можаце быць упэўненыя, умоўна-ліберальны фасад будзе скінуты і катаванні будуць ужывацца.

Таму на сёння выкарыстоўваюцца амаль выключна метады псіхалагічнага ціску. Адзін з самых папулярных — запэўніванне ў здрадзе сяброў.

Ніколі не ведаеш, праўда гэта ці не. Але ў любым выпадку, калі нехта здрадзіў табе, гэта не азначае, што мусіш здрадзіць ты. Трэба проста трымацца зададзенай мэты — не даць аператыўнікам інфармацыі. Тое, што нехта гэтай мэты не дасягнуў, ніяк не мусіць вас хваляваць. Да таго ж у большасці выпадкаў гэта няпраўда. Аднаму з абвінавачаных па справе анархістаў 2010 года, Дзмітрыю Дубоўскаму, які ўжо 8 гадоў ва ўцёках, КДБ, узламаўшы сайт яго дзяўчыны, пісала пранізлівыя лісты, у якіх распісвалася, што ўсе яго сябры валяць адказнасць на яго. 95 працэнтаў з таго, што яны пісалі, было хлуснёй. Але як пераканаўча гучала! Вось пачытайце.

«Комитетчики объясняли всю ситуацию. Рассказали, чего хотят они, и какая на самом деле обстановка. Тебя обвиняют только по статье УК 339 ч.1. по Солигорску. Но, это пока!!! На тебя действительно пытаются повесить кучу всего, но не они, а твои ДРУЖКИ! Ведь они думают, что ты уехал, и что всё можно на тебя свалить, а они то здесь!!! (насамрэч валіў толькі адзін. — заўв. М.Д.) Тебя, может быть, даже не искали бы, но все упоминают твою фамилию! И им действительно так проще! Допросили очень многих, но сидят только 2! (на самай справе, сядзелі ўжо чацьвёра. — заўв. М.Д.) Против тебя действительно только одно дело, хотя друзья на тебя вешают почти всё! Но нет против тебя доказательств! Сотрудники уверяют, что среди них есть умные и понимающие люди! Они действительно понимают, что ты просто пешка во всём этом! И кому-то это очень выгодно! У того, с кем ты уехал, здесь ничего не осталось! Его здесь ничего не держало! Тебя потянули с собой не просто так!!! Подумай над этим! Они говорят, что на тебя есть влияние, а может и давление более старших, и поверь, хитрых людей. Тебе сейчас тяжело! Ты верил в этих людей и в своё дело! Они просят: пока ты ещё не в розыске, ты должен появиться! И тебе действительно придётся ответить за свои поступки! Максимум, что тебе светит, это 1 год!»

Таксама прымяняюцца:

- Пагрозы табе асабіста (вялікі турэмны тэрмін, збіццё, праблемы ў зоне, у тым ліку сексуальны гвалт: «Паедзеш на зону, там цябе будуць мець. Палітычных зэкі не любяць!»).
- Пагрозы родным (звальненне з працы — самая распаўсюджаная пагроза. Варта адзначыць, што яе часта рэалізуюць).

# псіхалогія допыту

- Сцвярджэнне: «Мы ўжо ўсё ведаем, табе засталося толькі...» (каб выклікаць у вас паніку і адчайнае жаданне выратаваць сябе).
- Ціск на пачуццё віны (асабліва перад роднымі, асабліва калі яны ўжо старыя альбо хварэюць: «Твая маці цябе выхавала, вырасціла, а зараз сядзіць дома абліваецца слязьмі. І ўсё дзякуючы табе! Пасадзяць на 10 гадоў — і што тады? Ты думаеш, яна гэта перажыве?»).
- Жывапісанне жахаў турмы і перавагаў вольнага жыцця («Этапы, сабакі, праца цяжкая, зэкі адмарожаныя — ты думаеш, ты там вытрымаеш? Пачнеш пісаць суддзі і следчаму, ва ўсім прызнавацца, але будзе позна!»).
- Абвінавачанне ў баязлівасці (добра дзейнічае на славалюбных і ганарыстых людзей: «Сярод вас няма ні аднаго нармальнага мужыка! Каго не пытаўся, чый гэта мегафон, кожны баіцца ўзяць на сябе! Вы проста сцыкуны!»).
- Выкарыстання славалюбства і самалюбства («Ведаеш, вось я з табой паразмаўляў, бачу, ёсць у цябе стрыжань. Ты трымаешся, малайчына. А сярод тваіх сяброў такіх няма. Яны не вартыя цябе. Выслізгваюцца, баяцца, вочы хаваюць... Навошта ты іх выгароджваеш?»).
- Абяцанні адпусціць, як толькі вы дасце патрэбныя паказанні. Самае ілжывае абяцанне, але яно ж паўтараецца часцей за ўсё. Насамрэч, вас не адпусцяць, а, атрымаўшы інфармацыю адзін раз, працягнуць «даіць» да таго часу, пакуль не даведаюцца ўсё, што трэба. А пасля — проста скажуць завесці ў камеру;
- «Добры-злы паліцэйскі» (ну, гэта класіка).

Паўтаруся — пераважная колькасць крымінальных спраў, працэнтаў на 80, грунтуюцца на паказаннях, атрыманых ад затрыманых у першыя дні (альбо нават гадзіны). Першыя 2–20 дзён у ІЧУ стануць ключавымі для вашага далейшага лёсу.




### Ваша рэакцыя і яе ацэнка аператыўнікамі

Аператыўнікі бачаць, як і на якую пагрозу вы рэагуеце. І яны будуць ціснуць на самае балючае да самага канца. Як толькі яны пабачаць у вас нейкую слабіну ці прывязанасць, яны будуць ціснуць менавіта на яе. Вядома, для большасці людзей гэта будуць родныя. Пачнуць, да прыкладу, званіць вашай маці, у фарбах апісваць, што з вамі адбываецца. Ажно да таго, што выклічуць яе ў кабінет (такія выпадкі таксама былі). Могуць сказаць, што ў яе быў сардэчны прыступ, што яна ў лякарні і гэтак далей.

Нехта вельмі любіць сваю дзяўчыну. Як толькі апера гэта зразумеюць, вы абавязкова пачуеце: «Твая дзяўчына цябе не дачакаецца, ты атрымаеш 8 год, а яна знойдзе сабе іншага», «Яна цябе так любіць, а ты так не па-мужчынску з ёй паступаеш... А цябе ж усяго толькі просяць сказаць, дзе ты друкаваў брашуры — і ўсё, вольны, ідзі да сваёй дзяўчыны! Сёння ж будзеш спаць з ёй у адным ложку!».

Аналагічна будуць выкарыстоўваць і матэрыяльныя прывязанасці. Напрыклад, чалавек — калекцыянер ці аматар жывёл. Можаце не сумнявацца, гэта будзе скарыстана: «А хто ж будзе карміць тваіх мадагаскарскіх тараканаў? Яны ж перадохнуць без цябе», альбо «Твая калекцыя марак будзе далучаная да справы, а потым проста знішчаная як рэчыўны доказ. Ты для гэтага яе збіраў 15 гадоў? Але я магу дамовіцца, я ж бачу, ты хлопец нармальны... Ну дык хто з вас купляў бензін?»

### Псіхалагічная падрыхтоўка

Для таго, каб падрыхтавацца да допыту, трэба памятаць шэраг рэчаў і няспынна працаваць са сваёй воляй.

Нейкія пагрозы могуць быць рэалізаваныя, а некаторыя — не. Але гэта настолькі ўмоўна, што я не рызыкну вам сёння сказаць: «Гэта і гэта яны ніколі не зробяць». Сітуацыя можа змяніцца ў любы момант, і, тэарэтычна, яны могуць усё. Беспройгрышны ход — адразу настройвацца на турму, на максімальны тэрмін. Парадокс, але гэта робіць вас значна больш свабодным. Вы вызваляеце свой мозг ад бясконцай гонкі страхаў і хваляванняў і загружаеце яго больш практычнымі рэчамі: як правесці час з карысцю: як захаваць здароўе.

Распытвайце сукамернікаў пра турмы, лагеры, пра сістэму. Слухайце іх гісторыі, упітвайце, асэнсоўвайце. Як сказаў у адным са сваіх лістоў Аліневіч — у турме жыццё не заканчваецца, яно працягваецца па-іншаму. Памятайце, у той момант, калі вы гэта чытаеце, прыкладна 35 тысяч чалавек у адной толькі Беларусі сядзяць за кратамі. І нічога, жывыя.

Не спрабуйце сесці на два крэслы адразу: «Трошкі скажу, нібыта нікога не здам, а тэрмін знізяць». Многія нядрэнныя, у прынцыпе, людзі, купіліся на гэтую замануху, якую самі сабе прыдумалі. І аказаліся здраднікамі, самі таго не заўважыўшы. Калі вас некалькі, і вы ідзяце па групавым эпізодзе, свабоду можна купіць сабе толькі прамой здрадай. Іншых выхадаў няма, і іх шукаць нават не спрабуйце. На допыце не думайце ні аб чым, акрамя таго, каб не набалбатаць лішняга.

Памятайце, ваша мэта да самага заканчэння следства адна — не даць аперам інфармацыі, і тым самым выратаваць іншых. Многія думаюць, што здраднікамі на допытах робіцца нейкія асабліва мярзотныя, злыя людзі, якія ўсё жыццё сядзелі і думалі: «Як бы каму-небудзь здрадзіць?» Гэта не так. Большасць здраднікаў у звычайным жыцці, да наступлення выпрабаванняў, — абсалютна нармальныя людзі. Здраднікам чалавека робіць слабасць. На допытах ламаюцца і пачынаюць здаваць сяброў менавіта маральна слабыя людзі. У гэтай слабасці і адсутнасці волі ўся іхняя віна. Злой задумы ў іх няма, проста ёсць жаданне камфорту і іншыя чыста чалавечыя жаданні. Выкарыстоўваючы іх, аператыўнікі і ламаюць гэтых людзей.

Яшчэ адзін важны момант — разуменне таго, што ты робіш. Згадваючы досвед 2010 года, я зразумеў: важнай прычынай супрацоўніцтва са следствам некаторых маіх былых таварышаў было тое, што, ідучы на анархісцкія акцыі, яны проста не разумелі, што робяць. Яны не асэнсоўвалі ступень адказнасці, якая на іх кладзецца, ступень рызыкі, якой яны сябе падвяргаюць. І калі ў кабінеце следчага гэтая ступень стала ім зразумелая з усёй відавочнасцю (то-бок калі яны зразумелі, што за разбітыя шыбы альбо дэманстрацыю на праезнай частцы можна рэальна сесці ў самую сапраўдную турму, дзе зэкі, вертухаі і баланда), яны паддаліся жаху і гатовыя былі на ўсё, каб пазбегнуць гэтай перспектывы.

**Калі мы не можам паўплываць на ўзровень рэпрэсій, выйсце можа быць толькі адно: падрыхтаваць сябе да іх. А гэта значыць, прыняць як дадзенасць тое, што калі ты змагаешся, ты можаш быць за гэта пакараны**

То-бок, праблема іх здрадніцтва ўзнікла не тады, калі іх арыштавалі, а ў той момант, калі яны выйшлі з дома і пайшлі на акцыю. Яны не думалі альбо не хацелі думаць, што ім за гэта пагражае, і, натуральна, не былі гатовыя да наступстваў. Адсюль выснова: перад тым, як нешта рабіць, падумай добра, ці гатовы ты прыняць на сябе ўсю адказнасць? Падумай, пад які артыкул КК трапляюць твае дзеянні, і ці гатовы ты адсядзець за іх у выпадку няўдачы?

Таму асноўная выснова: кожны мусіць цвяроза ацэньваць свае сілы і разумець, чым ён гатовы ахвяраваць. Няхай кожны робіць тое, на што хапае ягонага ўнутранага рэсурсу.

Гэта не значыць, што трэба баяцца любога парушэння закона, тым больш закон пабудаваны так, што, каб не парушаць яго, трэба ўвогуле не рабіць нічога. Проста ў нейкі момант трэба цвяроза (і, можа быць, цынічна) вырашыць: «Вучобай і працай бацькоў я яшчэ гатовы ахвяраваць. А вось свабодай — не». Альбо: «3–5 гадоў я гатовы адсядзець. А больш — не». І проста не ўлазіць туды, дзе рызыка перавышае акрэсленыя межы.

Але пры гэтым варта памятаць: узровень рэпрэсій няспынна змяняецца, і, як правіла, у бок узмацнення. Тое, што ўчора было можна, сёння ўжо нельга. Дастаткова ўзгадаць закон «Аб барацьбе з экстрэмізмам»: калі раней удзельнікам пратэстных арганізацый пагражала максімум 2 гады па артыкуле 193-1, то сёння — да 10 гадоў па артыкуле 361-1.

Калі мы не можам паўплываць на ўзровень рэпрэсій, выйсце можа быць толькі адно: падрыхтаваць сябе да іх. А гэта значыць, прыняць як дадзенасць тое, што калі ты змагаешся, ты можаш быць за гэта пакараны. Калі ты атакуеш дзяржаву — яна контратакуе цябе. Гэта не трагедыя і не эксцэс, гэта нармальная з'ява, шараговы эпізод нашага супрацьстаяння. А гэта значыць, што для таго, каб годна сустрэць такі паварот у сваім жыцці, трэба няспынна працаваць над сабой, зжываць у сябе любыя слабасці, якія могуць быць скарыстаныя карнікамі, весці ў сваім сэрцы барацьбу супраць страху і жаданняў, якія цягнуць цябе ўніз.

Тыя, хто спрабуе нас зламаць, працуюць за костку, кінутую з барскага стала. У іх няма чыстых ідэй, сваіх думак, годнасці, гонару і пачуцця справядлівасці. Мы ж усё, што мы робім, робім па покліку сваёй душы. Можа быць, эканамічна і палітычна яны ўзялі верх, але маральная перамога на нашым баку ўжо зараз. Няхай разуменне гэтага грэе вас у цяжкую хвіліну.

Будзьма моцнымі!


svaboda.org (RFE/RL)

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. «Новага Макрона» не будзе

Падаецца, што закончылася кар'ера Роберта Бедраня — першага ў гісторыі Польшчы адкрытага гея — мэра, якому прагназавалі бліскучую будучыню. Абраны на пасаду бургаміста Слупска ў 2014 годзе, Бедрань у прынцыпе зарэкамендаваў сябе як някепскі адміністратар. Не дзіўна, што напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі 2019-га некаторыя пачалі разглядаць яго як перспектыўнага кандыдата. Лічылася, што мэр Слупску можа паўтарыць поспех Эмануэля Макрона, выкарыстаўшы яго рэцэпт. Па-першае, Бедрань — свежы твар на фоне старых фігурантаў польскай палітсцэны. Па-другое, ён — жывы сімвал мадэрнізацыі. Няма сумневаў, што прыход гея ў Бельведэр будзе рэвалюцыяй для каталіцкай Польшчы. Хадзілі плёткі, што палітык нават пачаў фармаваць выбарчы штаб і весці перамовы з патэнцыйнымі партнёрамі. Усё ішло добра да мінулага тыдня, калі выбухнуў скандал. Высветлілася, што адзін з супрацоўнікаў дэпартаменту культуры Слупска, 31-гадовы настаўнік танцаў, быў педафілам. Прычым гарадская адміністрацыя намагалася схаваць гэты факт ад грамадскасці, і нават ад бацькоў. Няма сумневаў, што скандал можа пахаваць аспірацыі маладога палітыка.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Мэр, які ратуе ад пахмелля

У Маскве 9 верасня пройдуць выбары мэра горада. У прынцыпе, іх вынік ужо вядомы. Дзеючы мэр Сяргей Сабянін атрымае большасць галасоў за кошт маштабнага піяру. Чым бліжэй дзень выбараў, тым больш дыфірамбаў на адрас кіраўніка горада гучыць у СМІ. Грамадства адрэагавала на такую істэрыку вельмі арыгінальна: пачало сваю іранічную агітацыйную кампанію «За Сабяніна». Карыстальнікі сацсетак спабортнічаюць у рэкламе мэра. Вось прыклады агітак: «Выказваю велізарную ўдзячнасць мэру за адсутнасць пахмелля сёння»; «Дзякуй Сабяніну за тое, што сёння я набыла сабе новыя джынсы! Пашанцавала з кіраўніком сталіцы!»; «Выказваю велізарную ўдзячнасць Сабяніну за тое, што мае бацькі такой прыгожай мяне нарадзілі», і гэтак далей. Безумоўна, такая творчая кампанія сведчыць пра наяўнасць у Расіі рэсурсу для апазіцыі. З іншага боку, гэтая гісторыя адлюстроўвае і слабасць апазіцыйных сілаў, якія не здольныя выкарыстаць існуючы патэнцыял. Увогуле, выбары мэра сталі яшчэ адной дэманстрацыяй слабасці апазіцыйных партый Расіі, якія імкліва ператвараюцца ў гурткі дысідэнтаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### Германія. Што спяваць нямецкім салдатам?

У супрацоўнікаў Мінабароны ФРГ незвычайная праблема. Усё пачалося з таго, што кіраўніца ведамства Урсула фон дэр Ляен вырашыла змяніць зборнік «Таварышы спяваюць» («Kameraden singt»). Гэта зборнік песень, які спяваюць салдаты Бундэсвера. Напэўна, у чымсьці ідэя слушная, бо некаторыя песні гэтага зборніка спявалі салдаты Вермахта падчас Другой сусветнай вайны. Але справа ў тым, што Урсула хоча, каб новыя песні натхнялі таксама і жанчын, якія сёння служаць у Бундэсверы. Таму міністарка патрабуе ад падначаленых перапрацаваць тэксты старых песень у адпаведнасці з новымі гендэрнымі тэндэнцыямі. Праблема няпростая, паколькі шмат старых песень пабудаваныя на немудрагелістым сюжэце: салдат марыць, як пасля вайны вернецца дадому да каханай дзяўчыны ці проста нап'ецца ў суседняй карчме. Як адаптаваць падобныя сюжэты для жанчын-жаўнераў, незразумела. Не кажучы пра тое, што герой шматлікіх старых песень нейкі канкрэтны военачальнік (напрыклад, кароль Фрыдрых). Чым скончыцца незвычайны эксперымент Урсулы фон дэр Ляен, пакуль незразумела.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Насталгія па качэўніках

Напрыканцы жніўня 1928 года ўлады Казахскай АССР прынялі пастанову «Аб канфіскацыі і высяленні ўладальнікаў байскіх гаспадарак». Фактычна, гэта азначала перавод мільёнаў казахаў з качавога ладу жыцця на аселы. Юбілей выклікаў вялікую дыскусію ў казнэце. Адна фракцыя яе ўдзельнікаў заклікае разглядаць тую пастанову як злачынны акт, паколькі яго вынікам стала разбурэнне звыклага ладу жыцця казахаў і вялікі голад. Апалагеты намадызму лічаць, што казахі ў выніку ўрбанізацыі страцілі тое, што немагчыма апраўдаць ніякім прагрэсам, а дакладней — элементы нацыянальнай ідэнтычнасці, не кажучы ўжо пра татальную русіфікацыю. Іх праціўнікі звяртаюць увагу на тое, што бальніцы, школы, універсітэты, бібліятэкі і музеі маглі з'явіцца толькі ў раёнах аселасці. Казахі здзейснілі рэдкі ў сусветнай гісторыі мадэрнізацыйны прарыў, за нейкія трыццаць-сорак гадоў пераадолеўшы цывілізацыйную прорву. Па большасці асноўных паказчыкаў сферы адукацыі яны дагналі жыхароў вядучых еўрапейскіх краін ужо да канца 1960-х гадоў. Суддзяў у гэтага дыспуту даволі багата. Аднак адзін момант трэба адзначыць — усе, хто настальгуе па качавых часах, аддаюць перавагу жыццю ў буйных гарадах.

**Паводле казахскай прэсы**




Фота www.politico.eu

# Атака Карлсанаў

Алег НОВІКАЎ

**Швецыя 9 верасня абірае новы парламент. Выбары могуць цалкам змяніць шведскі палітычны ландшафт.**

У размовах са шведамі мне прынамсі пару разоў давodзілася быць сведкам цывілізацыйнага шоку. Візаві не разумелі, чаму ў нашых шыротах такі папулярны Карлсан, які жыве на даху. Па іх словах, Карлсан для шведаў — хутчэй, адмоўны персанаж, і не толькі таму, што любіць хуліганіць.

Акрамя ўсяго, Астрыд Ліндгрэн выявіла ў вобразе чалавека з прапелерам прадстаўнікоў асобнай сацыяльнай катэгорыі суайчыннікаў. Гэта нешта кшталту мясцовых «ватнікаў» — людзей, якія думаюць шаблонамі, шукаюць простыя адказы на складаныя праблемы, намагаюцца не працаваць, а жыць на сацыяльную дапамогу. Нарэшце, яны аматары закласці за каўнер (у кніжцы алегорыяй алкаголю, маўляў, выступае варэнне, якое так любіць Карлсан).

Калі пагадзіцца з такой трактоўкай, то прызначаныя на 9 верасня выбары можна назваць атакай Карлсанаў. Менавіта маргіналітэт складае касцяк электарату партыі «Шведскія дэмакраты» (SD), якая рвецца да ўлады.

Увогуле, SD была заснаваная ў 1988 годзе ветэранамі шэрагу правардыкальных груповак. Дастаткова доўга партыя знаходзілася ў другім эшалоне шведскай палітыкі. Фартуна ўсміхнулася SD у 2010-м, калі ёй удалося трапіць у парламент з 4 працэнтамі. На выбарах 2014-га партыя замацавала свае пазіцыі (13 працэнтаў).

Прычыны росту сімпатый да SD тыя ж, што і паўсюдна ў Еўропе, — мігранты. За апошнія сем гадоў Швецыя прыняла каля 400 тысяч іншаземцаў. У пераліку на аднаго шведа гэта найбольшая колькасць сярод усіх краін Еўрасаюзу. Мігранты, асабліва з мусульманскіх краінаў, выклікалі шмат культурных, сацыяльных і крымінальных праблемаў — і зрабілі тэму іх асіміляцыі часткай выбарчай павесткі.

Прычым, антыімігранцкія сантыменты сярод шведаў настолькі моцныя, што яны гатовыя заплюшчыць вочы на адкрыты экстрэмізм «Шведскіх дэмакратаў». Напрыклад, у 2014 годзе адзін з правадыроў SD заклікаў мясцовых яўрэяў адмовіцца ад сваёй рэлігіі, каб інтэгравацца ў шведскі соцыум. Другі партыйны лідар засмучаўся праз тое, што найбольш папулярным шведам у свеце сёння з'яўляецца вядомы футбаліст Славан Ібрагімавіч — сын баснійскіх уцекачоў. Што да мусульман, то старшыня партыі Йімі Акесан увогуле лічыць іх галоўнай пагрозай для Швецыі з часоў Другой сусветнай вайны.

**Моцныя партыі Швецыі выключаюць магчымасць супрацоўніцтва з SD. Аднак палітолагі ўсё роўна б'юць у званы. Поспех правых у перспектыве разбурыць правілы гульні ў шведскай палітыцы**

Няма сумневаў, што па выніках выбараў SD пашырыць сваю фракцыю ў парламенце. Паводле апублікаваных 2 верасня вынікаў апытанняў, партыя можа атрымаць каля 20 працэнтаў. У індэксе папулярнасці «Шведскія дэмакраты» саступаюць толькі эсдэкам (25 працэнтаў).

Праўда, атрыманых мандатаў дакладна будзе мала, каб сфармаваць урад або ўвайсці ў кааліцыю нават з партыямі правага напрамку. Моцныя партыі Швецыі выключаюць магчымасць супрацоўніцтва з SD. Аднак палітолагі ўсё роўна б'юць у званы. Па іх словах, поспех правых у перспектыве разбурыць правілы гульні ў шведскай палітыцы.

Не выключана, што правыя цэнтрысты, уражаныя поспехам SD, пачнуць самі эксплуатаваць ксенафобскія забабоны. Гэта азначае, што «Шведскія дэмакраты» змогуць пашырыць свой еўрафобскі і ксенафобскі дыскурсы на ўвесь правы фланг. Пачнецца працэс накшталт таго, што цяпер адбываецца ў Італіі.

Зрабіць больш жорсткай міграцыйную палітыку не супраць і некаторыя сацыял-дэмакраты, рэйтынг якіх прасеў у параўнанні з 2014-м на 5–6 працэнтаў. Скараціўся энтузіязм сярод шведаў наконт «Зялёных» — асноўнага партнёра эсдэкаў па кааліцыі, якія ўвогуле на мяжы праходу ў парламент (5 працэнтаў). Нават негалосная падтрымка экс-камуністаў з боку Партыі левых з 10 працэнтамі папулярнасці не дазволіць прэм'еру Стэфану Лёфвену пайсці на новую кадэнцыю.

На правым флангу сітуацыя аналагічная. Асноўныя кансерватыўныя партыі — «Умераныя» і Партыя цэнтру — разам могуць спадзявацца атрымаць прыкладна 30 працэнтаў падтрымкі, а гэтага недастаткова для фармавання ўраду.

На думку экспертаў, праблема, якая паўстане пасля выбараў, можа быць вырашаная на карысць «Умераных». Іх лідар Ульф Крыстэрсан можа сітуацыйна выкарыстаць «Шведскіх дэмакратаў», якія дакладна не будуць галасаваць за працяг прэм'ерства Лёфвена. Аднак нават такі сцэнар у будучыні не застрахуе Швецыю ад палітычнага хаосу. З іншага боку, хіба хаос — гэта не тое, што больш за ўсё любіў Карлсан?

# Фэйк над усімі фэйкамі

Алег НОВІКАЎ

**Адна з загадак Другой сусветнай вайны, пра пачатак якой узгадвалі днямі, — нашто ў верасні 1939-га польская прэса дэзынфармавала чытача, распавядаючы пра фіктыўныя перамогі на ўсіх франтах?**


DZIEŃ DOBRY!

Środa 6 września 1939 r.

ROK IX NR 246

# Linia Zygfryda przerwana

## Francuzi wkroczyli do Nadrenii

# Nalot polskich bombowców na Berlin

Blokada Niemiec rozpoczęła

Fabryka samolotów w Friedrichshafen wyleciała w powietrze

„Athenia" był storpedowany przez łódź podwodną

Bitwa morska na Morzu Północnym

2 statki niemieckie zatopiono

Tajemnicze zaginięcie statku łotewskiego

Czy zatopiony przez miny?

Ambasador Francji wyjechał z Niemiec

Bombardowanie miasta w Danii

Henderson opuścił Niemcy

„Bohater ZSRR" gen. Jakowlew zginął w Mandżurii

Komisarze obrony w Rzeszy

Nalot na Berlin samolotów polskich

Lotnictwo polskie dokonało w poniedziałek nalotu na Berlin. Z 30 samolotów, które brały udział w rajdzie wszystkie powróciły nieuszkodzone.

Komunikat Sztabu Naczelnego Wodza Nr 5 z dnia 5.9.1939 r.

Nalot 70 bombowców na Warszawę

Sfałszowany wywiad radia wrocławskiego z przeorem Jasnej Góry

Woj. Grażyński ministrem propagandy

Stany Zjednoczone deklarują neutralność

Odezwa Rządu Rzeczypospolitej

Straż obywatelska m. st. Warszawy czuwać będzie nad ładem i spokojem stolicy

Musimy wszyscy zachować wspólny spokój pracy i ład

Odezwa prezydenta Starzyńskiego

Za pomyślność oręża polskiego

Uroczyste nabożeństwo w Katedrze warszawskiej

Legion Polski także w Belgii

Poselstwo czesko-słowackie w Moskwie funkcjonuje normalnie

Фота www.histmag.org

Першыя польскія газеты з паведамленнямі з фронту з'явіліся ўжо апоўдні 1 верасня 1939 года. Яны пісалі пра бандыцкі напад гітлераўцаў і баі па ўсёй лініі фронту.

Але прыкладна з 3–4 верасня журналістаў, што называецца, панесла. Напрыклад, друкаваліся паведамленні пра тое, як польскія самалёты бамбардуюць Берлін. «Сёння раніцай над Берлінам з'явілася 30 польскіх самалётаў, якія бамбілі ваенныя аб'екты, і наносілі велізарную шкоду ворагу. Усе самалёты вярталіся без стратаў», — пісаў «Kurjer Poranny» 5 верасня.

6 верасня з'явілся інфармацыя пра тое, што ва Усходняй Прусіі немцы панеслі велізарныя страты. У выніку польская кавалерыя перанесла баявыя дзеянні на тэрыторыю Германіі, дзе ёй дапамагае брытанская авіяцыя. Не дзіўна, што хутка з'явілася навіна: польскае войска стаіць каля варотаў Берліну, які вось-вось выкіне белы сцяг. 10 верасня «Dziennik Polski» парадаваў аўдыторыю навінай пра хуткую сустрэчу польскага і французскага войскаў, што маршыруюць насустрач адно аднаму па нямецкай зямлі.

Не менш цікавыя падзеі, паводле польскіх медыя, адбываліся на іншых франтах Другой сусветнай вайны. На Заходнім фронце французы атакавалі пазіцыі немцаў і адразу ў пяці месцах прарвалі Лінію Зігфрыда — сістэму нямецкіх умацаванняў на Захадзе Германіі. Падключыліся да вайсковых дзеянняў і брытанцы. Флот Яго Вялікасці актыўна пускаў на дно нямецкія караблі і субмарыны, а брытанскія самалёты палівалі бомбамі парты немцаў на Балтыцы. Разумеючы хуткі і непазбежны канец Германіі, італьянскі дыктатар Мусаліні перабег у антыфашысцкі лагер. У самой Германіі — у прыватнасці, у Баварыі — ідуць масавыя антываенныя маніфестацыі. Краіну ахапіў татальны дэфіцыт. Сам Гітлер страціў кантроль над сітуацыяй і схаваўся ў нейкім сакрэтным бункеры...

Цікава, што газеты працягвалі сваю лінію нават пасля таго, як катастрофа Польшчы была ўжо відавочная. 18 верасня газета «Czas» аптымістычна рапартавала пра тое, што пад Гдыняй брытанска-французскі флот разграміў суперніка, а ўсё неба над Польшчай вызвалена ад немцаў. Яшчэ далей пайшоў «Express Poranny», які 20 верасня апублікаваў рэпартаж пра візіт маршала Эдварда Рыдз-Сміглага на адзін з участкаў фронту. Сам Рыдз-Сміглы, для даведкі, на той час з іншымі кіраўнікамі збег у Румынію.

**Прымусіць чытача набываць газету заўжды дапамагала сенсацыя. Вось і даводзілася журналістам прыдумляць фантастычныя анонсы на першую старонку**

Логіка падобнай маніпуляцыі падаецца вельмі дзіўнай. Па-першае, ад пачатку вайны ўглыб краіны на Усход рушыла вялікая маса ўцекачоў, якія распавядалі пра тое, што сапраўды адбываецца на фронце. Ужо той факт, што праз тыдзень вайны немцы выйшлі да Варшавы, павінна было выклікаць сумнеў, напрыклад, у паведамленнях выдання «Czas». У выпуску ад 8 верасня «Czas» пісаў, што «імпульс нямецкага наступу ў Польшчы запаволіўся».

Цяперашнія гісторыкі заклікаюць глядзець на сітуацыю трошкі інакш. Кіраўніцтву краіны было вельмі важна падтрымліваць аптымізм сярод палякаў, для якіх напад немцаў быў сапраўдным шокам. Пераможныя рэляцыі хоць нейкім чынам уздымалі дух насельніцтва. Акрамя таго, яны дапамагалі лакалізаваць панічныя настроі, якія б спаралізавалі працу дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў. Нарэшце, трэба было мабілізаваць людзей на барацьбу з акупантам. Адсюль, напэўна, фэйкі ў газеце «Express Poranny» ад 4 верасня. Газета інфармавала пра бамбардзіроўку немцамі касцёла ў Яснай Гуры — святыні польскага народу.

Нарэшце, нельга забывацца, што тагачасная польская прэса была цалкам камерцыялізаванай. Прымусіць чытача набываць газету заўжды дапамагала сенсацыя. Вось і даводзілася супрацоўнікам рэдакцый прыдумляць самыя фантастычныя анонсы на першую старонку. Накшталт таго, што яўрэі Палесціны сфармавалі стотысячнае антыгітлераўскае войска, якое вось-вось рушыць на дапамогу Польшчы праз Балканы.

Ёсць яшчэ адзін цікавы тэзіс. Шэраг гісторыкаў лічаць, што фэйкі пра перамогі былі следствам фатальнай памылкі тагачасных лідараў Польшчы. У польскім кіраўніцтве чамусьці ўпарта панавала думка, што Вермахт больш слабы за польскае войска. Падставы для такіх забабонаў сапраўды былі. Па сутнасці, Гітлер парушыў Версальскія дамовы, якія забаранялі Германіі мець армію, толькі ў 1935-м, калі з'явіўся закон аб увядзенні ў Германіі ўсеагульнай вайсковай павіннасці. Так ці інакш, мантры пра слабасць немцаў прэса тыражавала з сакавіка 1939-га, калі пачалі абвастрацца адносіны з Берлінам. З пачаткам вайны ў лідараў краіны не хапіла мужнасці адмовіцца ад старых штампаў і паглядзець праўдзе ў вочы.

Уся гэта гісторыя яшчэ раз даводзіць вернасць выразу амерыканскага палітыка Хірама Джонсана: «Першай ахвярай вайны заўжды з'яўляецца праўда».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Тэрэза Мэй



Прэм'ер Вялікабрытаніі і лідарка партыі кансерватараў здзейсніла афіцыйны візіт па шэрагу краін Афрыкі, які выклікаў вялікі адмоўны рэзананс на радзіме.

Па-першае, крызісная сітуацыя вакол Brexit дыктуе заставацца дома. Па-другое, вандроўка абышлася бюджэту вельмі дорага — каля 400 мільёнаў долараў. Па-трэцяе, уразілі незвычайныя заявы прэм'ера, зробленыя ў час турнэ. У прыватнасці, Мэй падтрымала ўрад Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) у намеры нацыяналізаваць зямлю белых фермераў. Паколькі гэтыя землі былі захопленыя белымі падчас каланізацыі, іх прыналежнасць — сапраўды юрыдычна спрэчнае пытанне.

Між тым, многія баяцца, што ў выніку нацыяналізацыі белае насельніцтва ПАР чакае лёс белага насельніцтва ў суседнім Зімбабвэ. Там аналагічная рэформа выклікала адкрыты тэрор у дачыненні да белых, якія паспяшаліся масава пакінуць краіну. Уцёкі гэтай часткі насельніцтва, а таксама наступная эвакуацыя з краіны заходніх капіталаў справакавалі эканамічны крызіс. Яго вынікам стала гіперінфляцыя, у выніку якой Зімбабвэ страціла нацыянальную валюту.

Пакуль не зразумела, як адміністрацыя ПАР збіраецца прадухіліць падобны сцэнар. Дарэчы, прыкладна ў чэрвені вялікая дэлегацыя прадстаўнікоў абшчыны белых грамадзян ПАР наведала Расію, каб абмеркаваць праект перасялення на Паўночны Каўказ.

### Генадзь Зюганаў



Лідар Кампартыі Расіі (КПРФ) нечакана для ўсіх зноў стаў галоўным апанентам Крамля. Усё з-за пратэстаў супраць пенсійнай рэформы 2 верасня, да якіх падключылася і КПРФ.

Хутчэй, гэта быў іміджавы крок, паколькі кіраўніцтва партыі ўпісана ў расійскую эліту. Аднак у выніку кіраўніцтва не змагло ўтрымаць акцыі пад кантролем. На арганізаваных КПРФ у правінцыі акцыях практычна ўсюды гучалі антыпрэзідэнцкія лозунгі. Агульны сэнс рэзалюцыяў мітынгаў камуністаў на месцах — кіраўнік дзяржавы стаў на бок алігархаў супраць народа, ён падтрымлівае ўрад Дзмітрыя Мядзведзева, якога даўно наспеў час адправіць у адстаўку.

Відавочна, настроі сярод часткі камуністаў вельмі радыкальныя, што ставіць Зюганава ў супярэчлівае становішча. Сам лідар КПРФ не выходзіць за межы патрабаванняў адстаўкі ўраду. Цяпер яму неяк давядзецца сядзець на двух крэслах.

Таксама варта адзначаць, што акцыі 2 верасня адбыліся нягледзячы на тэлезварот Пуціна ад 29 жніўня, у якім ён абяцаў змякчыць рэформу. Відавочна, што выступ не толькі не змяніў негатыўны настрой у грамадстве, а ў чымсьці нават яго пагоршыў.

### Маўрысіа Макры



Прэзідэнт Аргенціны, прадстаўнік правалібералньага лагера заявіў, што гатовы на самыя беспрэцэдэнтныя захады, каб атрымаць абяцаны крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) у памеры 50 мільярдаў долараў.

У тым ліку ў рамках эканоміі бюджэту прэзідэнт абяцае скасаваць цэлых 13 (!) міністэрстваў. Краіна неўзабаве рызыкуе застацца без такіх ключавых інстытутаў, як дэпартаменты навукі, культуры, аховы здароўя, транспарту, прамысловасці, аховы навакольнага асяроддзя, сельскай гаспадаркі і энергетыкі, і гэтак далей. Захады, мякка кажучы, вельмі незвычайныя, паколькі без згаданых дэпартаментаў краіне пагражае відавочны крызіс. З іншага боку, магчыма, той крызіс ужо прыйшоў. Толькі за апошні тыдзень аргентынскі песа ўпаў на 30 працэнтаў.

Прэзідэнт абяцае, што ў выніку рэалізацыі яго геніяльнага плана да пачатку наступнага года курс стабілізуецца. Аднак, калі нават песа стабілізуецца, наўрад ці выбаршчык забудзе, што песа абвалілася на трэцім годзе прэзідэнцкай кадэнцыі Макры, які перад выбарамі абяцаў вырашыць усе эканамічныя праблемы.

Гэтак жа варта згадаць, што аргенцінцы памятаюць пра дэфолт 2000-га, пралогам якога стала шчыльная кааперацыя з МВФ і, адпаведна, скарачэнне бюджэту. Тады ўсё скончылася масавымі пратэстамі і ўцёкамі прэзідэнта з краіны.

# Сто гадоў «чырвонаму тэрору»

Таццяна ПРОЦЬКА

**Беларусь як дзяржава яшчэ не была створаная, а яе органы прымусу ўжо дзейнічалі. Савецкая дзяржава, яшчэ нават не народжаная, ужо была дзяржавай тэрору і прымусу.**


Каля будынка харкаўскай НК пасля вызвалення горада белымі. Лета 1919

У гэтыя дні мы адзначаем сумную дату — стагоддзе «чырвонага тэрору», пачаткам якога лічыцца 5 верасня.

Слова «тэрор» мае два значэнні. Ён разглядаецца як гвалт аж да фізічнага знішчэння (забойства) у адносінах да палітычных праціўнікаў, і як тактыка запалохвання. Прыхільнікамі тэрору былі ўсе вядомыя кіраўнікі савецкай дзяржавы — Ленін, Троцкі, Сталін, Дзяржынскі, Свярдлоў, Калінін і шмат хто іншы, чые прозвішчы і сёння носяць вуліцы беларускіх гарадоў. Менавіта савецкія кіраўнікі зрабілі тэрор дзяржаўнай палітыкай, якая была афіцыйна абвешчаная і занатаваная ў законе, што пасля ўтварэння беларускай дзяржавы быў распаўсюджаны і на яе тэрыторыю.

Тэкст гэтага дакумента:

*«ПАСТАНОВА*

*ад 5 верасня 1918 года «Аб чырвоным тэроры»*

*Савет Народных Камісараў, заслухаўшы даклад Старшыні Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і злачынствамі па пасадзе аб дзейнасці гэтай Камісіі, знаходзіць, што пры дадзенай сітуацыі забеспячэнне тылу шляхам тэрору з'яўляецца непасрэднай неабходнасцю; што для ўзмацнення дзейнасці Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, спекуляцыяй і злачынствам па пасадзе і ўнясення ў яе большай планамернасці неабходна накіраваць туды магчыма большую колькасць адказных партыйных таварышаў; што неабходна абараніць Савецкую Рэспубліку ад класавых ворагаў шляхам ізаляванасці іх у канцэнтрацыйных лагерах; што падлягаюць расстрэлу ўсе асобы, датычныя да белагвардзейскіх арганізацый, змоваў і бунту; што неабходна апублікаваць імёны ўсіх расстраляных, а таксама падставы прымянення да іх гэтай меры.*

*Падпісалі: Народны Камісар Юстыцыі Д. Курскі*

*Народны Камісар па Унутраных Справах Г. Пятроўскі*

*Кіраўнік Справамі Савета Народных Камісараў Ул. Бонч-Бруевіч»*

Савецкая гістарыяграфія разглядала «чырвоны тэрор» як вымушаны адказ маладога савецкага кіраўніцтва на «белы тэрор» з боку прыхільнікаў царскай улады падчас грамадзянскай вайны. Але сёння лёгка знайсці шмат дакументаў, якія сведчаць пра адваротнае.

Па-першае, «чырвоны тэрор» не быў «вымушанай мерай абароны». Маецца дастаткова выказванняў тэарэтыкаў і практыкаў «марксізму і ленінізму», якія бачаць у рэвалюцыйным тэроры найбольш эфектыўны спосаб абароны сваёй улады. Яшчэ ў траўні 1901 года Ленін пісаў: «Прынцыпова мы ніколі не адмаўляліся і не можам адмаўляцца ад тэрору. Гэта — адно з ваенных дзеянняў, якое можа быць цалкам прыдатнае і нават неабходнае ў пэўны момант бітвы, пры пэўным стане войска і пры пэўных умовах» (Ленін, ПЗТ, т. 5, с. 7). Падчас станаўлення савецкай таталітарнай сістэмы галоўным момантам дзяржаўнага жыцця стала так званая «карная палітыка» — афіцыйнае азначэнне, якае ўжывалася ў тагачасных дакументах для вызначэння адносін дзяржавы да тых, хто не згодзен з палітыкай дзяржавы.

Спачатку «карную палітыку» ажыццяўлялі неканстуцыйныя органы — прадатрады, камбеды, рэўкомы. Яны, як тады казалі, «рабавалі нарабаванае» — адбіралі ў заможных людзей тое, што было патрэбнае дзяржаве ці падабалася ўдзельнікам экспрапрыяцый.

Па-другое, палітыка тэрору пачалася яшчэ да пачатку Грамадзянскай вайны. Першапачатковыя органы савецкай улады, якія тады называліся карнымі, былі створаныя менавіта для ажыццяўлення дзяржаўнага тэрору супраць насельніцтва, нязгоднага з палітыкай экспрапрыяцый. Да гэтых органаў належалі пралетарскія суды, рэвалюцыйныя трыбуналы і надзвычайныя камісіі.

Вызначаючы задачы судоў, Ленін пісаў: «Нам трэба дзяржава, нам трэба прымус. Органам пралетарскай дзяржавы, якая ажыццяўляе такі прымус, павінны быць савецкія суды». Стварэнне савецкай судовай сістэмы было аформленае ў лістападзе 1917 года Дэкрэтам «Аб судзе» №1. Дэкрэт усталёўваў 2 тыпы судоў — мясцовыя агульнаграмадзянскія і рабоча-сялянскія трыбуналы. Апошнія прызначаліся для разгляду найбольш важных спраў, звязаных з контррэвалюцыйнай дзейнасцю. І суды, і трыбуналы выносілі свае рашэнні, карыстаючыся «рэвалюцыйнай мэтазгоднасцю», якая грунтавалася на «класавых інтарэсах».

Галоўная роля ў рэгуляванні адносін асобы і савецкай дзяржавы, аднак, адводзілася не судам, а рэвалюцыйным трыбуналам, якія былі створаныя з ліку адказных палітычных работнікаў, і надзвычайным камісіям. Менавіта гэтыя структуры былі ініцыятарамі «чырвонага тэрору» і ажыццяўлялі яго.

Карная палітыка падтрымлівалася спецыяльнымі вайсковымі фарміраваннямі — «часткамі асобага прызначэння». Гэта былі ваенна-партыйныя атрады, якія спачатку ствараліся пры завадскіх партыйных ячэйках, райкамах, гаркамах партыі бальшавікоў, а потым увайшлі ў склад міліцыі. Свае вайсковыя часткі мелі і надзвычайныя камісіі.

Па-трэцяе, расійскі тэрмін «грамадзянская вайна» да гісторыі Беларусі прымяняць проста нельга. Да «белага руху» Беларусь мае толькі тое дачыненне, што ў Магілёве быў забіты галоўнакамандуючы царскімі войскамі генерал-лейтэнант Духонін, а ў Быхаве, пасля няўдалай спробы дзяржаўнага перавароту ў Расіі летам 1917 года, заходзіліся ў турме з верасня па лістапад будучыя кіраўнікі «белага руху» генералы Карнілаў, Дзянікін і іншыя, якія адсюль выбраліся на Дон. Беларускі супраціў — у тым ліку і сялянскі, і рабочы — савецкай уладзе, не меў ніякага дачынення да «белага руху».

Сёння пад «чырвоным тэрорам» разумеецца шырокамаштабная кампанія рэпрэсій бальшавікоў, накіраваная супраць саслоўяў і сацыяльных груп, якіх бальшавікі лічылі перашкодай для дасягнення мэтаў сваёй партыі.

1 лістапада 1918 года адзін з кіраўнікоў УНК Марцін Лацiс апублікаваў указанні мясцовым органам НК: «Не шукайце ў справе абвінаваўчых доказаў — паўстаў ён супраць Саветаў са зброяй або на словах. Першай справай вы павінны яго спытаць, да якога класа ён належыць, якога ён паходжання, якая ў яго адукацыя і якая прафесія. Вось гэтыя пытанні і павінны вырашыць лёс. У гэтым сэнс і сутнасць чырвонага тэрору».

Чырвоны тэрор доўжыўся да 1922 года. За гэты час было расстраляна прыкладна 1,7 — 1,8 мільёна чалавек — менавіта такія лічбы маюць распаўсюджанне ў замежным (у першую чаргу, сярод рускай эміграцыі) друку, хоць часам прыводзяць і значна большыя лічбы.

У Беларусі чырвоны тэрор меў свае асаблівасці. Ён быў скіраваны на ўзяцце закладнікаў (пра гэта «Новы Час» пісаў), на тэрор супраць мірнага насельніцтва, якое па тых ці іншых прычынах падалося карным органам бальшавікоў варожым, і супраць дэзерціраў Чырвонай арміі. Пра тое, як адбываўся чырвоны тэрор у Беларусі, пра атмасферу тэрору, сведчыць ліст, які быў накіраваны ў жніўні 1919 года кіраўнікамі Літоўска-Беларускай Рэспублікі ў Маскву — Феліксу Дзяржынскаму:

*«...Для ілюстрацыі бескантрольных паводзін НК ЛітБел лічым патрэбным прывесці шэраг фактаў, пра якія вядома шырокім колам партыйных таварышаў ЛітБел.*

*Яшчэ раней мы паведамлялі пра расстрэл у Мінску без апавяшчэння арганізацыі двух польскіх камуністаў: т. Квека і т. Занко, адносна вінаватасці якіх нам нічога не маглі сказаць прадстаўнікі НК ЛітБел. З іх справай дагэтуль нам не далі магчымасці азнаёміцца, нягледзячы на наш неаднаразовы зварот.*

*Расстрэл гэтых двух камуністаў — толькі яскравы прыклад таго, як працавала наша НК і як выконваліся там смяротныя прысуды. Адносна апошняга ў нас маюцца некаторыя звесткі. Выпадкова Член ЦК Міцкевіч быў адзін раз на пасяджэнні «Тройкі» (т. Тарашкевіч і два тт. з Асобага Аддзела Захфронта), дзе выносіліся смяротныя прысуды. Пры гэтым зусім не разглядаліся справы прыгавораных, не было іх спраў нават на стале, а па памяці выносіліся прысуды. Былі выпадкі, калі ніхто з прысутных не ведаў, у чым абвінавачваецца такі-та. Тады пыталіся пра гэта ў аднаго або другога супрацоўніка і заносілі прозвішча арыштаванага ў спіс падлягаючых расстрэлу. Міцкевіч спачатку думаў, што гэта якая-небудзь папярэдняя нарада, але потым высветлілася, што гэта было афіцыйнае пасяджэнне «Тройкі». Ці было больш такіх пасяджэнняў, нам не вядома.*

*Аднак са слоў супрацоўнікаў НК вядома, што часам сябры «Тройкі» і прадстаўнікі Асобага Аддзела проста-такі заходзілі ў камеру, апытвалі арыштаваных, у чым яны абвінавачваюцца, і тут жа адводзілі адных направа, іншых налева. Адна з гэтых партый неадкладна адводзілася на расстрэл. Некаторыя ратаваліся тым, што хаваліся за дзвярыма. Між іншым, гэта мела месца ў Мінскай НК у ноч з 28 на 29 ліпеня. Падлягаючыя расстрэлу часам тут жа ў камеры разуваліся і распраналіся. Потым служачыя НК у прысутнасці арыштаваных шумна дзялілі паміж сабой іх маёмасць...*

*Прысуджаныя да расстрэлу часам маглі выкупляцца. Гэта рабілася афіцыйным шляхам. Назначалася пэўная сума — у 40 ці колькі там тысяч. У выпадку ўнёску — вызваляўся, у выпадку няўнёску — расстрэльвалі. Так быў расстраляны нейкі Футэр, за якога быў прызначаны выкуп у 40 або 60 тысяч, але гэтая сума своечасова не была занесеная.*

*У Мінску ўпарта цыркулявалі чуткі, што на глебе выкупу ўтварылася «спекуляцыя». Рабочыя абураліся, што такім чынам спекулянты могуць вызваляцца, а бедныя падлягаюць расстрэлу.*

*Відавочна, у панічным стане перад сваімі ўцёкамі старшыня НК ЛітБел разам з прадстаўніком Асобага Аддзела Захфронта Антонавым, як сцвярджалі некаторыя супрацоўнікі НК, у п'яным выглядзе здзейснілі пачварную экзекуцыю над прысуджанымі да расстрэлу. Перш чым расстраляць іх, яны здзекаваліся з іх настолькі, што некаторыя супрацоўнікі з гэтай нагоды нават выказалі пратэст перад ЦК ЛітБел. Калі нічога не атрымалася выпытаць, сем чалавек былі расстраляныя; у жывых пакінуты толькі Глухоўскі, маці і бацька якога на яго вачах былі расстраляныя. Трупы расстраляных былі пакінутыя на двары НК, у склепе, не закапанымі ў зямлю...*

*Потым Тарашкевіч з задавальненнем заявіў, што ім расстраляна ў нас 167 чалавек. Гэта павінна служыць доказам таго, што такім чынам выкаранена ў Беларусі контррэвалюцыя. На самай справе бессістэмнымі расстрэламі направа і налева пры тым становішчы, якое мы бачылі, было толькі ўзмоцнена варожае стаўленне насельніцтва да савецкай улады, і не толькі сярод буржуазіі, але і сярод працоўных. Да глыбіні душы былі абураныя паводзінамі НК нават многія партыйныя таварышы. Нам каштавала немалых намаганняў, каб супакоіць Мінскі Рабочы Полк, які гатовы быў разнесці НК».*

Калі ў Мінск у пачатку верасня 1919 года прыйшлі польскія войскі, судовыя органы заняліся раскопкамі магіл тых, каго расстралялі ў Мінскім НК. Да 2 верасня было выкрыта 10 магіл, з якіх вынялі 42 трупы са звязанымі ззаду рукамі. Парэшткі ахвяраў «чырвонага тэрору» перадалі сваякам для пахавання па рэлігійных абрадах.

Найменш за астатнія маецца звестак пра барацьбу з дэзерцірствам, якое пашырылася з увядзеннем абавязковай вайсковай павіннасці. Толькі ў чэрвені 1919 года ў Магілёўскім уездзе дэзерціры складалі 25% тых, каго прызывалі ў Армію. У канцы 1919 года нават былі створаныя цэнтральная, а таксама губернскія і павятовыя камісіі па барацьбе з дэзерцірствам. Займалася вынішчэннем дэзерціраў міліцыя. У тым жа чэрвені 1919 года ў адным Клімавіцкім уездзе было злоўлена 250 дэзерціраў.

Чырвоны тэрор меў яшчэ адну мэту. Ён павінен быў запалохаць адукаваных людзей і прымусіць іх працаваць у савецкіх установах. Як заўважыў з гэтай нагоды Троцкі: «Тэрор як дэманстрацыя сілы і волі працоўнага класа атрымае сваё гістарычнае апраўданне менавіта ў тым факце, што пралетарыяту ўдалося зламаць палітычную волю інтэлігенцыі».

Чырвоны тэрор і далейшыя рэпрэсіі мелі наступствы, якія адчувальныя і сёння. І гэта не толькі страчаныя жыцці мільёнаў людзей. Галоўнае — гэта страх перад карнымі органамі дзяржавы. Ад гэтага страху людзі станавіліся сексотамі, услаўлялі бальшавіцкіх кіраўнікоў, пісалі даносы на сваіх родных. Гэты страх і сёння непераадолены. Нават за 100 гадоў.



# Рассыпала на клавішах гукі…

## Слова пра забытую кампазітарку Эльзу Зубковіч

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларуская кампазітарка Эльза Зубковіч пражыла доўгае жыццё — 88 гадоў, і ўсюды і заўжды яна займалася музыкай і музычнай адукацыяй, пісала музычныя творы на вершы беларускіх паэтаў. Амаль паўстагоддзя Эльза Зубковіч пражыла далёка ад роднай Бацькаўшчыны — у Германіі і ЗША.**

### У Мінску

Эльза Зубковіч (дзявочае прозвішча Пілеман) нарадзілася ў Мінску ў 1895 годзе. Бацька яе быў доктарам медыцыны, але вельмі любіў музыку. Ён дужа хацеў, каб дачка сур'ёзна пачала займацца ёю, бо з малых гадоў у Эльзы выявіліся музычныя здольнасці. Дзяўчынка ўдала падбірала на раялі пачутыя мелодыі, прыдумвала свае і хораша грала.

У 1914 годзе Эльза на выдатна скончыла Мінскую музычную школу і рыхтавалася да паступлення ў кансерваторыю, але Першая сусветная вайна перашкодзіла гэтаму. Праўда, сям'я Мінск не пакінула, а бацька працягваў аказваць дапамогу хворым і параненым, — ён працаваў галоўным урачом шпіталя. І дачку ён уладкаваў працаваць у ваенны шпіталь, дзе Эльза выпадкова пазнаёмілася з выдатным педагогам і піяністам, прафесарам Варшаўскай кансерваторыі Георгіем Жураўлёвым, які ў Мінску праходзіў вайсковую службу. Прафесар пачаў дапамагаць дзяўчыне. І прыватна за чатыры гады яна прайшла з ім поўны курс кансерваторыі для фартэпіяна, адначасна прымаючы ўдзел у розных канцэртах.

У 1920 годзе, падчас польскай акупацыі Мінска, Эльза Пілеман часта выступала на розных канцэртах, працавала акампаніятарам для польскіх салістаў. Так яна пазнаёмілася з доктарам Урштэйнам. Менавіта ён параіў дзяўчыне паехаць у Берлін да вядучага прафесара-тэарэтыка Берлінскай кансерваторыі, кампазітара Паўля Юона.

Эльза паехала ў Берлін. Пад кіраўніцтвам Юона маладая піяністка пачала вывучаць музычна-тэарэтычныя дысцыпліны і тэорыю кампазіцыі. Вучылася на выдатна. І прафесар прыняў яе ў свой кампазітарскі клас Берлінскай кансерваторыі з прызначэннем стыпендыі. 13 траўня 1922 года дзяўчына вытрымала экзамен на піяніста-педагога пры кансерваторыі ў Штутгарце, а ў канцы 1922 года зноў вярнулася ў Мінск як настаўніца музыкі.

### Вяртанне дамоў

Вярнуўшыся ў Мінск, Эльза Пілеман сутыкнулася з цяжкім матэрыяльным становішчам. Памёр яе бацька, а маці засталася без працы і заробку. Эльза, каб неяк выжыць, спачатку чытала лекцыі музыкі на фартэпіяна ў Беларускай музычнай школе, а потым — у музычным тэхнікуме. А ў 1932 годзе, калі ў Мінску адкрылася кансерваторыя, пайшла працаваць туды. Там яна ўладкавалася на працу ў якасці піяністкі-акампаніятара студэнтаў-спевакоў, а таксама выкладала ў вакальных класах. У кансерваторыі Эльза глыбока пачала вывучаць творы беларускіх кампазітараў, якія часта выконвала падчас заняткаў, а таксама на канцэртах.

Працуючы як педагог і піяністка-акампаніятар, у дзяўчыны зусім не заставалася часу на ўласныя кампазіцыі. Тым больш, хутка ў родным Мінску Эльза пабралася шлюбам з сынам святара, у яе нарадзіліся дзве дачкі. Адна з іх — Ліза Маркоўская — пазней стала вядомай у беларускіх колах ЗША спявачкай, якая выступала нават на Сусветнай выставе ў Нью-Ёрку з беларускімі песнямі.

Напачатку 1930-х гадоў Эльза Зубковіч напісала некалькі рамансаў на словы беларускіх паэтаў. На жаль, з іх захаваўся толькі адзін — на словы Якуба Коласа «Дарога». Былі напісаныя рамансы і на словы беларускіх рэпрэсаваных паэтаў, але іх выконваць забаранялася. Некалькі мелодый з гэтых рамансаў яна выконвала ў сваёй невялікай уверцюры для беларускіх народных інструментаў. Гэтая ўверцюра пад назвай «Будаўніцтва» часта выконвалася Эльзай на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Мінску напачатку 1930-х гадоў. Але з гадамі ноты кудысьці зніклі…

Наогул, перыяд 1930-х — гэта час творчай дзейнасці Эльзы Зубковіч як кампазітаркі і педагога. Яна ўзначальвала кафедру агульнага фартэпіяна ў кансерваторыі, пісала рамансы і апрацоўвала беларускія народныя песні. Пад яе кіраўніцтвам кафедраператварылася ў сапраўдную навукова-даследчую ўстанову. Кампазітарка шчыра сябравала з Міколам Равенскім, Васілём Залатаровым, Мікалаем Аладавым, Яўгенам Цікоцкім і іншымі музычнымі дзеячамі Беларусі.

З добрай рукі кампазітара Васіля Залатарова, напрыклад, у выдавецтва была здадзена кніга Эльзы Зубковіч, куды ўвайшлі беларускія народныя песні ў яе апрацоўцы і рамансы на словы беларускіх паэтаў. На жаль, яна не выйшла з друку, бо пачалася Другая сусветная вайна. Дый многія аўтары вершаў перад вайной былі ўжо рэпрэсаваныя.



**Яна ўзначальвала кафедру агульнага фартэпіяна ў кансерваторыі, пісала рамансы і апрацоўвала беларускія народныя песні. Кафедра ператварылася ў сапраўдную навукова-даследчую ўстанову**

У 1934 годзе кампазітарка напісала вялікую працу па творчасці Ёганэса Брамса. За яе Эльза Зубковіч атрымала званне дацэнта. Па творчасці Брамса яна павінна была абараніць у Маскве кандыдацкую дысертацыю. Але зноў жа — перашкодзіла вайна.

### На эміграцыі

У 1944 годзе Эльза Зубковіч разам з сям'ёй выехала ў Германію, а пасля ў ЗША. Але і там да самай смерці яна не пакідала сваёй музычнай і педагагічнай дзейнасці. Спадарыня Зубковіч рыхтавала маладых піяністаў, выступала ў канцэртных праграмах, чытала лекцыі пра славутых кампазітараў свету, пісала рэцэнзіі на канцэрты, рэдагавала кнігі.

Плённым было яе сяброўства з рускай паэткай Ірынай Сабуравай. Вынікам іх творчых узаемаадносін стаў зборнік рамансаў «Падае асенняе лісце», які выйшаў з друку ў Нью-Ёрку ў 1972 годзе. Але найбольш наша зямлячка любіла сваю родную беларускую паэзію. У тым жа 1972 годзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку выдаў цудоўны зборнік дванаццаці песень на сярэдні голас з фартэпіяна Эльзы Зубковіч «Край мой васількоцы».

Прадмову да зборніка напісаў вядомы кампазітар Алесь Карповіч, дзе падкрэсліў, што «шчырая, беспасярэдняя музыка песняў Эльзы Зубковіч праякнутая пачуццямі, што пры тварэнні хвалявалі кампазітара. Таму не можа яна пакінуць абыякавым і слухача. Асноўны настрой песняў сузіральна-лірычны. Дый кампазітар умее знайсці мноства адценняў гэтай лірыкі. Акварэльнымі тонкімі штрыхамі ён зарысоўвае засмучоную задуменнасць польнае дарогі («Дарога» Якуба Коласа), светлую журбу веснавога вечару («Вясновы вечар» Наталлі Арсенневай), радасную ўзнятасць пачуццяў, выкліканую характвом прыроды роднага краю («Ой, ты край мой залаты» і «Я душу нявыгойна параню» Міхася Кавыля), трапяткосць парывання («Ветру» Алеся Гаруна), усхваляваную летуценнасць («Мроя» і «Знае сэрца» Наталлі Арсенневай), закалыханы супакой («Калыханка» Наталлі Арсенневай) і г.д.».

Музычныя творы Эльзы Зубковіч, як пісаў Алесь Карповіч, — гэта ўдзячны матэрыял для выканаўцаў. І гэта сапраўды так. Кампазітарка і музыка пакінула нам дзясяткі цудоўных музычных твораў. Для выканання сола пад акампанемент фартэпіяна кампазітарка апрацавала народныя творы «Ці я ў полі?» і «Сватокˮ (для сярэдняга голасу), «Замуж пайсці, трэба знаць» (для сапрана), дуэты: «Ляціць сарока», «Кума мая, кумачка». Менавіта гэтыя творы і былі апрацаваныя для беларускага канцэрту на Сусветнай выстаўцы ў Нью-Ёрку ў 1965 годзе. Іх і выконвала яе дачка Ліза Маркоўская.

Напісала Эльза Зубковіч і шмат твораў для фартэпіяна. Сярод якіх — «Маленькая фантазія» (на дзве народныя мелодыі), некалькі варыяцый на беларускія мелодыі («Охці мне, ох», «У месяцы верасні», «Чаму ж мне не пець»), фантазію на беларускую танцавальную мелодыю «Бульба», калядку «Ой рана, рана…» і шмат іншых. Кампазітарка Эльза Зубковіч добра ведала беларускі фальклор, беларускія традыцыі і мову.

***

У Беларусі ў XX стагоддзі не так і шмат было жанчын-кампазітараў. А тым больш такіх, якія валодалі патрэбнымі якасцямі: талентам, ведамі і шчырымі адносінамі да сяброў і сваёй Бацькаўшчыны. Усе гэтыя якасці ў свой час мела беларуская кампазітарка, музыка і педагог Эльза Зубковіч.

У 1976 годзе паэтка Наталля Арсеннева прысвяціла ёй цудоўны верш. У адной страфе яна напісала:

*Гэта ж ты, пакуль захад зыркі не астыў,*
*Рассыпаеш па клавішах вечару гукі,*
*Паўтараеш бярэзнікаў рэчытатыў,*
*Грэеш песняю новаю рукі…*

Эльзы Зубковіч не стала 4 чэрвеня 1983 года ў Нью-Ёрку.

# «Слаўся, пан Астрожскі!»



**Па гарызанталі:** 1. Пасада галоўнакамандуючага войскамі; яе займаў у ВКЛ выдатны палкаводзец, князь Канстанцін Астрожскі, які 8 верасня 1514 года са сваім 30-тысячным войскам ушчэнт разбіў 80-тысячную армію маскавітаў. 4. «... Воршы ўжо не горша,\\ Слаўся, пан Астрожскі!». З беларускай народнай песні «У нядзельку параненьку». 7. Эмблема дзяржавы; ... ВКЛ «Пагоня» ў час Аршанскай бітвы ўпрыгожваў дзяржаўныя сцягі на коп'ях кавалерыі, а баявыя флюгеры коннікаў з чырвонай паласой на белым тле зрабіліся прататыпам бел-чырвона-белага сцяга. 9. ... Радзівіл; імя выдатнага палкаводца, які з многіх бітваў выходзіў пераможцам, а ў Аршанскай бітве ўзначальваў лёгкую конніцу; меў ён слаўныя мянушкі — Пераможац, Літоўскі Геркулес, Віктар. 10. Старажытны беларускі горад, які, як і Крычаў, Дуброўна, Друцк, пасля разгрому маскавітаў быў вернуты ў склад ВКЛ. На вялікі жаль, беларускі Смаленск застаўся ў складзе Масковіі. 12. Шырокі доўгі яр. 13. «Рушыць на Літву маскава, гэй, Канстанцін жа смела,\\ Даў рашучы ім ..., гэй, бо чыніў умела». З вершаванай аповесці Мацея Стрыйкоўскага (1582 год). 14. Мужчынскае імя. 16. Адходы пасля абірання бульбы, пладоў. 17. «... пранясе цябе, родная мова,\\ Святлом незгасальным у сэрцы сваім». З верша Максіма Танка «Родная мова». 19. Літара ў старажытнаславянскім алфавіце. 20. Перапынак у занятках. 23. Пахмурна, не ... . 25. «Як і ... маскалёў,\\ Што хацелі наш край зваяваць,\\ І цяпер у Крапіўне ляжаць». З верша Віктара Шніпа «Балада Аршанскай бітвы». 26. Тое, што і дыяпазітыў. 27. ... Альгерд. Пачэсны дадатак да свайго імя, які атрымаў Вялікі князь ВКЛ, пераможца ў бітвах з маскавітамі, крыжакамі. У часы яго ўладарання дзяржаўнай мовай была старажытнабеларуская, а межы ВКЛ прасціраліся да Чорнага мора.

**Па вертыкалі:** 1. Дух, які сочыць за парадкам у лесе. 2. Той, што складаецца з трох частак, якія ўтвараюць адзінства. 3. Мера зямельнай плошчы. 5. Луідор або ... Старажытная залатая французская манета. 6. Доўгі высокі земляны насып. 8. Матэрыяльна незабяспечаныя прадстаўнікі інтэлігенцыі. 10. ... або моджэр. Старадаўняя караткаствольная артылерыйская гармата. 11. «У табар прыходзяць ... — на плечах доўгія дзіды,\\ З шаблямі слонімцы валяць і меткія лучнікі з Ліды». З паэмы Адама Міцкевіча «Мешка, князь Навагрудка». 12. Вацлаў ... Беларускі пісьменнік, гісторык, дзяржаўны дзеяч, які ўпершыню, у 1918 годзе, надрукаваў песню пра Аршанскую бітву «У нядзельку параненьку». 15. Добры чалавек (размоўнае). 18. «Ды насустрач лютым гадам\\ Князь Астрожскі вывеў раці,\\ Даць адпор ашчэрным катам,\\ Бараніць зямельку-...». З верша Алега Грушэцкага «Балада а перамозе». 21. Рака ў Афрыцы. 22. Ручная агнястрэльная зброя XIV – XVII стагоддзяў. 24. Нота музычнай гамы.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**



**Адказы на крыжаванку «Хлеб — як сонца ў руках» (НЧ №30 ад 24 жніўня):**

**Па гарызанталі:** 1. Час. 4. Бохан. 6. Праца. 7. Запас. 9. Жыта. 11. Палеткі. 12. Рай. 13. Прачыстая. 14. Цар. 17. Хвала. 18. Луста. 19. Умова. 20. Песня. 22. Аск. 23. Пацалунак. 27. Пан. 30. Дранікі. 31. Тайна. 32. Астра. 33. Цытра. 34. Слова. 35. Ролік.

**Па вертыкалі:** 1. Чэк. 2. Справа. 3. Ранеты. 4. Банкет. 5. Азарт. 8. Сварка. 9. Жэрах. 10. Ас. 15. Слава. 16. Бусел. 19. Умалот. 21. Ясната. 24. Царыца. 25. Ланіты. 26. Нектар. 28. Фінал. 29. Госці.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №713

Падпісана да друку 07.09.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.